–*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
26
ЛЮТАГА
1993 г.
№ 9 (3679)

ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.

КОШТ
3 рублі








## Слова і слава Беларусі

«Слова аб Беларусі», «Слава Беларусі»... Паміж гэтымі жывапіснымі палотнамі Уладзіміра Стальмашонка — 20 год. Першае створана ў 1972 годзе, другое — у 1992. Паміж імі — цэлая эпоха ў беларускім мастацтве: «суровы стыль», «этнаграфізм», нацыянальнае Адраджэнне. У 70-х гадах беларуская інтэлігенцыя адваявала ў бальшавіцкай улады права на прапаганду культурнай гісторыі свайго народа. Ідэалагічная цэнзура ў выніку гэтага «літасціва» дазволіла беларусам мець сваіх філосафаў і асветнікаў. Прыгадаць пры выпадку Ефрасінню Полацкую альбо Сымона Буднага, спаслацца на творы Міколы Гусоўскага альбо Яна Вісліцкага ўжо, дзякаваць Богу, крамолай не лічылася.

Але гэтая «лагоднасць» уладаў не распаўсюджвалася на палітычную гісторыю Беларусі. Публічныя развагі аб беларускай дзяржаўнасці (Полацкае княства, Вялікае княства Літоўскае, Рэч Паспалітая) маглі па-ранейшаму паставіць крыж на кар'еры навукоўца. Трэба было разбурыць Савецкі Саюз, вырвацца з імперскіх абдымкаў Масквы (ці хоць аслабіць гэтыя абдымкі), каб нарэшце мець магчымасць гаварыць аб славе свайго народа.

Слаўнай гісторыі беларускай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага прысвечана другое палатно У. Стальмашонка.

Абедзве карціны экспануюцца на персанальнай выставе мастака ў Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі. Сама ж выстава прымеркавана да юбілею Уладзіміра Стальмашонка. Днямі яму споўнілася 65 год.

В. БОГУШ.

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА— АДЗІНАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ

**У канцы студзеня адбылася пашыраная кансультацыйная нарада дэмакратычных, патрыятычных арганізацый Рэспублікі Беларусь. З нагоды 3-х угодкаў прыняцця Закона Рэспублікі Беларусь аб мовах нарада прыняла Заяву «Нацыянальна-культурнае адраджэнне Беларусі—справа гонару і сумлення кожнага грамадзяніна Рэспублікі».**

Усведамляючы сваю адказнасць за будучыню Бацькаўшчыны, кіруючыся пачуццём святога абавязку перад народам Беларусі, за адраджэнне роднай мовы і нацыянальнай культуры, мы, удзельнікі кансультацыйнай нарады дэмакратычных патрыятычных арганізацый рэспублікі ў складзе палітычных партый і іншых аб'яднанняў — БСДГ, БСП, ПНЗ, НДПБ, ТБМ імя Ф. Скарыны, Саюз пісьменнікаў Беларусі, Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», Згуртаванне беларускай шляхты пры ўдзеле Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, у адпаведнасці з Дэкларацыяй аб Дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, Канстытуцыяй і дзейным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь

**ЗАЯЎЛЯЕМ**

пра поўную згоду са статусам беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай у рэспубліцы, а таксама пра агульнае імкненне кіравацца ў грамадскім жыцці палажэннямі Закона аб мовах, іншымі нарматыўнымі актамі, якія рэгулююць моўна-культурныя адносіны ў дзяржаве.

Выказваем рашучы пратэст у сувязі з імкненнем пэўных палітычных груповак і некаторых сацыяльна-абмежаваных груп насельніцтва Беларусі дыскрэдытаваць дзейны Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь і перашкодзіць яго ажыццяўленню. Наша Бацькаўшчына — гэта агульны дом для прадстаўнікоў розных нацыянальных супольнасцей, розных канфесій і грамадска-палітычных аб'яднанняў грамадзян Беларусі. Але нас яднае агульная гісторыя і нацыянальна-адметная спадчына, мова беларускага народа, народа, які даў найменне рэспубліцы і стварыў адметную еўрапейскую культуру. З'яўляючыся часткай народа Беларусі, ганебна падымаць руку, альбо кідаць непрыхільныя словы, калі гаворка ідзе пра мову народа, пра яго культуру, пра будучыню Бацькаўшчыны.

Мы заклікаем усіх сумленных грамадзян Беларусі незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці, палітычных пераканання, а таксама ад прыналежнасці да канфесіі, прафесійнай суаднесенасці, зрабіць усё, што ад нас усіх залежыць, каб беларуская мова стала паўнапраўным гаспадаром у рэспубліцы. Заклікаем далучыцца да наступных патрабаванняў да Вярхоўнага Савета і ўрада рэспублікі:

**1. Не дапусціць заканадаўчага абмежавання функцый беларускай мовы, як адзіна дзяржаўнай у Рэспубліцы Беларусь пры адначасовым забеспячэнні патрэб нацыянальна-культурнага развіцця ўсіх нацыянальных супольнасцей Беларусі.**

**2. Паслядоўна выконваць палажэнні Закона аб мовах, аб адукацыі, аб культуры, Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай і іншых моў у Рэспубліцы Беларусь, стварыўшы ўмовы для таго, каб ва ўсіх галінах грамадска-культурнага жыцця Беларусі нацыянальная мова займала ў адпаведнасці з нарматыўнымі актамі рэспублікі пачэснае месца. Распрацаваць на ўзроўні заканадаўчых і іншых нарматыўных актаў сістэму мер, якая прадугледжвае адказнасць службовых асоб усіх узроўняў у рэспубліцы за няпоўнае і недастатковае выкананне палажэнняў Закона аб мовах. Выяўляць і даваць належную ацэнку ўсім фактам правядзення палітыкі русіфікацыі на дзяржаўным узроўні.**

**3. Адмовіцца ад выкарыстання ў эфіры новага цалкам рускамоўнага канала тэлебачання на базе Санкт-Пецярбургскага тэлепаказу, *калі не* створана належных умоў для развіцця ўласнабеларускага эфіру, калі не транслююцца перадачы з Кіева, Вільні і іншых сумежных краін.**

**4. Аказаць усямерную падтрымку *дзейнасці* патрыятычных дэмакратычных арганізацый рэспублікі, накіраваную на адраджэнне беларускай мовы, пашырэнне нацыянальнай культуры, фармаванне грамадзянскай супольнасці нацыянальна-свядомых грамадзян Беларусі.**

**5. Прыкласці намаганні для стварэння нацыянальнай сістэмы адукацыі і інфармацыі, развіцця і ўзбагачэння беларускай культуры і мовы. У першую чаргу неабходна стварыць умовы *дзеля папулярызацыі* ведаў пра гісторыю Беларусі, выпусціўшы шэраг падручнікаў і дапаможнікаў, а таксама папулярных выданняў пра слаўнае мінулае беларускага народа.**

**6. Стварыць міжведамасныя грамадска-дзяржаўныя камісіі з прадстаўніцтвам нацыянальна-патрыятычных і іншых дэмакратычных грамадскіх арганізацый па правядзенні атэстацыі кіруючых кадраў у галіне адукацыі, інфармацыі і іншых сферах сацыяльна-культурнага комплексу з мэтай забеспячэння патрабаванняў Закона аб мовах па пераводзе справаводства на дзяржаўную мову.**

**7. Звярнуць увагу сродкаў масавай інфармацыі на недапушчальнасць любых форм зняважлівасці дзяржаўнай беларускай мовы; у выпадку парушэння дадзенага патрабавання прыцягваць вінаватых да адказнасці ў адпаведнасці з дзейным заканадаўствам.**

Няма будучыні для дзяржавы, якая не мае дзяржаўнай мовы, няма будучыні ў палітычных структур, якія не ўсведамляюць таго, што Беларусь ёсць, калі мае месца духоўна-культурная лучнасць народа нашай агульнай Бацькаўшчыны. Будучыня за тымі, хто служыць Бацькаўшчыне.

Вечна жыве Беларусь і матчына мова!

# «Ва імя святога ўсім нам адраджэння»

## На Магілёўшчыне прайшлі ўрачыстасці з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння Максіма ГАРЭЦКАГА

Каля ўтульнага дамка — людна. Асабліва шмат дзяцей і старых. Першыя — яно вядома — усюды паспяваюць, а дзяды і бабулі проста не маглі сюды не прыйсці: ці не ўсе яны добра памятаюць і самога Максіма Іванавіча, і яго сям'ю, не кажучы пра бацькоў пісьменніка. Тым больш, што Малая Багацькаўка (цяпер Мсціслаўскі раён) не такая і вялікая вёска, кожны чалавек, як кажуць, навідавоку, а тады, у гады маленства і юнацтва М. Гарэцкага яшчэ меней двароў было.

Брат пісьменніка Гаўрыла Іванавіч прыгадваў: «Мой брат, Максім Гарэцкі, нарадзіўся 18 лютага (6 лютага старога стылю) 1893 года ў глухім кутку Беларусі — у маленькай, на 20 двароў, вёсцы Малая Багацькаўка (па-ранейшаму Меншая Багацькаўка) Мсціслаўскага павета, закінутай паміж дрымотных панскіх лясоў Цёмналесся, за 90 кіламетраў ад бліжэйшае чыгуначнае станцыі Орша.

Вялікая сялянская сям'я бацькі і дзядзькі Якава складалася з 12 душ, жыла ў адной цеснай хаце з замшэлай саламянай страхою, з земляною падлогаю і маленькімі акенцамі на адну шыбу. Асвятлялася хата лучынаю.

Жылі бедна, кожная луста хлеба, кожная лыжка былі на ўліку. Працавалі многа і цяжка. Часта хварэлі».

Колішні побыт сям'і Гарэцкіх адлюстроўвае мемарыяльная частка музея, які адчыняецца ў аднаўленай хаце. Калі заходзіць у яго, дык гэта правая палавіна яе. Старыя рэчы (музейныя работнікі расказваюць, што калі шукалі ў самой Малой Багацькаўцы і навакольных вёсках экспанаты для будучага музея, сяляне, даведаўшыся, дзеля чаго гэта робіцца, амаль заўсёды адказвалі: «Ну, калі для Максіма Гарэцкага, дык нічога не шкада), ляжак, накрыты коўдрай, — ля сцяны, што тыльным бокам выходзіла ў двор... У печы патрэскваюць бярозавыя паленні, напаўняючы пакой цяплом, і хата становіцца яшчэ больш утульнай, свойскай. Так і здаецца, што і сам М. Гарэцкі прысутнічае тут. Толькі не чалавекам сталага веку, а дапытлівым дзіцянём, якое шырока раскрытымі вачыма глядзела на навакольны свет, здзіўляючыся і жадаючы спазнаць усе таямніцы яго. Гэта ж ён, Максімка, доўгімі зімовымі вечарамі, прысланіўшыся спіной да яшчэ неастылай печы, ці прысеўшы на ляжак, лавіў кожнае слова дарослых, імкнучыся нічога не прапусціць, усё запомніць...

Пра повязь М. Гарэцкага з роднымі мясцінамі, найперш з Малой Багацькаўкай падрабязна расказвае другая частка музея — літаратурная. Безумоўна, ёсць у падборы матэрыялаў і пэўная «абавязковасць», жаданне ахапіць увесь жыццёвы і творчы шлях пісьменніка. Але ж — гэта першы музей М. Гарэцкага на Беларусі, і таму такая экспазіцыя прымальная.

Асабліва, калі ўлічыць, што выказваюцца пажаданні (неаднаразова прагучалі яны і ў час урачыстасцяў), каб з цягам часу ў Малой Багацькаўцы быў не проста Літаратурны музей М. Гарэцкага, а музей роду Гарэцкіх. І гэта слушна. Сапраўдны апостал на ніве нацыянальнага Адраджэння не толькі сам Максім Гарэцкі. Не менш каларытная фігура і Гаўрылы Гарэцкага — знакамітага геолага, доктара геолага-мінералагічных навук. А сын пісьменніка Леанід, які загінуў у гады вайны? Ягоныя франтавыя лісты ў нечым пераклікаюцца з запіскамі бацькі «На імперыялістычнай вайне». А жывыя Гарэцкія — пляменнік Радзім Гарэцкі, акадэмік і культурны дзеяч, дачка Галіна Гарэцкая, якая шмат зрабіла па адшукванні, зберажэнні спадчыны бацькі, а таксама творчасці маці, жонкі Максіма Іванавіча, дзіцячай пісьменніцы Леанілы Чарняўскай, сотыя ўгодкі з дня нараджэння якой будуць сёлетняй восенню?

Верыцца, такі музей будзе. Бо, урэшце, М. Гарэцкі вярнуўся да ўсіх нас, хоць вяртанне гэтае было доўгім і па-



Ля мемарыяльнай дошкі (злева направа) Радзім ГАРЭЦКІ і скульптар Валяр'ян ЯНУШКЕВІЧ.



Выступае Сяргей ЗАКОННІКАЎ.

Фота У. ПАНАДЫ.

кутлівым. І для самога пісьменніка і для прыхільнікаў яго таленту. «Нас і Максіма Гарэцкага, — слушна сказаў на адкрыцці музея В. Карамазаў, — доўгі час раз'ядноўвалі, аддалялі адзін ад другога. Цяпер, урэшце, гэтая заслона знікла. Мы і Гарэцкі — разам. Мы разам сёння і разам будзем заўсёды». Думкі аб велічнасці таленту М. Гарэцкага прагучалі таксама з вуснаў намесніка міністра культуры Рэспублікі Беларусь У. Гілепа, намесніка старшыні Мсціслаўскага райвыканкама І. Папечкіна, П. Прапалава з Вязьмы, Р. Гарэцкага... У іх выказваннях — і павага да таго, хто быў і па сённяшні дзень застаецца адным з самых выдатных нашых адраджэнцаў, і адначасова боль, што прызнанне да М. Гарэцкага, яго вяртанне ў літаратуру гэтак задоўжылася.

А гаворка пра М. Гарэцкага і яго складаны час, што адбіўся ў ягонай творчасці, пачалася на юбілейных чытаннях у лекцыйнай аўдыторыі імя М. Гарэцкага ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. У Горках ён, як вядома, вучыўся, у Горках жыў і працаваў, загадваючы кафедрай беларускай мовы і літаратуры ў акадэміі. Пра гэта на сцяне аўдыторыі нагадвае мемарыяльная дошка. Яшчэ адна (аўтар В. Янушкевіч) была ўрачыста адкрыта пасля чытанняў. Выступілі на адкрыцці рэктар сельскагаспадарчай акадэміі В. Шаршуноў, С. Законнікаў, старшыня Горацкага раённага Савета народных дэпутатаў І. Халява, М. Гарэцкі, В. Янушкевіч.

Чытанні, хоць і юбілейныя, праходзілі ў сапраўды навукова-даследчай атмасферы. З жаданнем глыбей пранікнуць у творчасць М. Гарэцкага, лепей зразумець яе складанасць і шматграннасць, адчуць тое, што пакуль слаба вывучана. Вылучаліся выступленні загадчыка кафедры беларускай і рускай мовы БСГА В. Зяньковіч; рэктара В. Шаршунова, даклады Р. Гарэцкага, М. Мушынскага, В. Каваленкі... Работа чытанняў была працягнута ў секцыях «Жыццё і творчасць М. Гарэцкага. Вывучэнне яго творчасці ў школе» (кіраўнік М. Мушынскі), «Творчасць М. Гарэцкага і праблемы літаратуры» (кіраўнікі — загадчык кафедры беларускай літаратуры Магілёўска-

(Працяг на стар. 4).

# Фундацыя імя Луцкевічаў

Утворана Фундацыя сацыяльных ініцыятыў і даследаванняў імя братоў Івана і Антона Луцкевічаў. Яна мае сваёй мэтай вывучэнне і прапаганду гісторыі, тэорыі і практыкі як беларускага, так і замежнага сацыял-дэмакратычнага руху, даследаванне праблем сучаснага сацыяльнага і культурнага развіцця і нацыянальнага адраджэння Беларусі. Дзеля выканання сваіх задач Фундацыя можа стаць асацыянаваным сябрам блізкіх па мэтах арганізацый у Рэспубліцы Беларусь і за яе межамі.

Асаблівую ўвагу Фундацыя будзе надаваць вывучэнню і публікацыі творчай спадчыны выдатных дзеячаў беларускага адраджэння і сацыяльна-дэмакратычнага руху, найперш І. і А. Луцкевічаў; ушанаванню іх памяці. Спрыяць аднаўленню Віленскага беларускага музея, створанага братамі Луцкевічамі. Фундацыя будзе вывучаць вопыт дзейнасці замежных, асабліва еўрапейскіх, сацыял-дэмакратычных партый, пашыраць сярод людзей наёмнай фізічнай і разумовай працы і прадпрымальнікаў ідэі беларускай і сусветнай сацыяльнай дэмакратыі, прапагандаваць прынцыпы палітычнай дэмакратыі і сацыяльнага партнёрства. Сярод заснавальнікаў Фундацыі вядомыя людзі беларускай навукі і культуры. Прэзідэнтам абраны акадэмік Р. Гарэцкі.

**НАШ КАР.**

## БЕЛАРУСЬ ІДЭАЛЬНАЯ

**У нумары за 25.12. 1992 г. мы звярнуліся да нашых аўтараў і чытачоў з пытаннямі культуралагічнага характару. Нагадаем іх змест.**

**1. У чым, на вашу думку, заключаецца нацыянальная сутнасць чалавека: у мове, самасвядомасці, крэўнасці («генах»), вонкавых праявах псіхікі... (іншае)? Які з гэтых фактараў, на ваш погляд, адыгрывае вырашальную ролю дзеля самаідэнтыфікацыі беларусаў у сучасных варунках?**

**Як сталі беларусам вы?**

**2. Беларуская ідэя (шлях, традыцыя): у чым яна для вас заключаецца? Паспрабуйце, калі ласка, даць вызначэнне БЕЛАРУСКАГА.**

**3. Прысутнасць «беларускага» ў свеце напрыканцы XX стагоддзя: рэальнасць, прывіднасць, намінатыўнасць (...)? Наколькі значна адрозніваюцца ваша рэальнае, «знешняе» жыццё і вашыя нацыянальныя ідэалы; якім чынам вы дасягнулі і ці дасягнулі кампрамісу паміж рэальнасцю і ідэаламі?**

**4. Параўнайце, калі магчыма, існуючае «беларускае» (і існаваўшае да нядаўняга часу ад 1917 г.) з ТРАДЫЦЫЯЙ. Якімі шляхамі беларуская культура можа ўзбагачацца надалей і пашырыцца ў агульначалавечы кантэкст (варыянты: а) праз беларускі месіянізм; б), в), г)...— вашыя варыянты)?**

**Сёння «ЛіМ» змяшчае адказы на пытанні дырэктара Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны прафесара А. МАЛЬДЗІСА.**

**Апроч таго, з тыпалагічным доследам хрысціянскага зместу духоўнай гісторыі беларусаў выступае супрацоўнік Скарынаўскага цэнтра філосаф А. АНЦІПЕНКА.**

**Адам МАЛЬДЗІС**

# «СМЯЯЦЦА, КАБ БЫЦЬ ЖЫЦЦЯЗДОЛЬНЫМІ»

1. Найперш нацыянальная сутнасць чалавека выяўляецца ў яго самасвядомасці. Мова і вонкавыя праявы псіхікі залежаць ад яе. Чалавек павінен адчуваць сваю належнасць да нацыянальнай сукупнасці людзей (мы) і неналежнасць да іншых сукупнасцяў (яны). Асоба, якая не ўсведамляе такога падзелу, або ўключае сябе ў чужую сукупнасць, — анамалія, што вядзе да яе разбурэння.

2. Беларускае — гэта наша і тым самым маё. Натуральнае жаданне — каб яно было лепшае, чым у іншых, набліжалася да ідэальнага. Але тут тоіцца і небяспека (нацыяналізм як супрацьлеглая крайнасць камунізму). Таму патрэбен тут і крытыцызм, нацыянальная самаіронія. Нацыя, якая ўжо смяецца над сваімі заганамі, — жыццяздольная нацыя.

3. Намінатыўнасць, якая становіцца рэальнасцю.

4. Ад пачатку XX ст. мы як нацыя адышлі недалёка. А сям-там нават не дасягнулі таго ўзроўню свядомасці. Шлях адзін — мацаванне ўласнага інтэлектуальнага і эмацыянальнага поля (патэнцыял тут, мабыць, павялічваецца не ў арыфметычнай, а ў геаметрычнай прагрэсіі).

**Алесь АНЦІПЕНКА**

# ЕЎРАПЕЙСКАСЦЬ І ХРЫСЦІЯНСКАЯ ІДЭЯ БЕЛАРУСКАСЦІ

Культурная гісторыя еўрапейскіх народаў — гэта перадусім гісторыя народаў хрысціянскіх. Само фармаванне і канчатковае афармленне еўрапейскіх народаў, складванне адзіных кшталтаў еўрапейскай культуры можна лічыць **вынікам хрысціянізацыі** шматлікіх плямёнаў і этнасаў. Народ ці нацыя як формы чалавечае еднасці ўсведамлялі саміх сябе праз засваенне хрысціянскіх каштоўнасцяў, праз запаветы любові да Бога і чалавека. Межамі гэтага самаўсведамлення найчасцей ставаліся этнічная прыналежнасць, моўныя асаблівасці, звычкі паўсядзённага гаспадарчага жыцця, прыродныя ўмовы існавання этнасаў і г. д.

Развіццё працэсаў нацыянальнага самаўсведамлення ў пэўных межах не было чымсьці выпадковым і супярэчлівым духу хрысціянскага вучэння. Хутчэй наадварот, у межах свайго народа чалавек найглыбей і найяскравей адчуваў духоўны сэнс Хрыстовага запавету пра любоў да бліжняга, бо бліжні якраз і быў чалавекам блізкім па сваіх звычках і мове, нацыянальнай псіхалогіі і г. д.

Далейшы працяг хрысціянская ідэя чалавечай еднасці (любові да бліжняга, калі бліжнім ужо робіцца чалавек любой іншай нацыянальнасці) знайшла ў фармаванні агульнаеўрапейскай псіхалогіі, феномена еўрапейскасці і еўрапейскай культуры. Пры гэтым, аднак, варта адзначыць, што тут перадусім трэба мець на ўвазе Еўропу класічную. XX стагоддзе з'яўляецца ўжо сведкам разбурэння феномена класічнай еўрапейскасці: абездухоўленне Захаду і духоўная катастрофа на ўсходзе Еўропы прыпынілі развіццё гэтага працэсу.

У нацыянальным сэнсе ідэя еўрапейскасці пазбаўляла кожны народ адчування свае непаўнавартаснасці, рабіла яго роўным астатнім. Як жыццё кожнага асобнага чалавека з'яўляецца каштоўным, бо ёсць дарункам Божым, гэтак жа сама жыццё і існаванне кожнае нацыі з'яўляецца аднолькава каштоўным і неабходным, бо ідэя нацыі ці народа ёсць хоць і недасканалым, але ж вобразам хрысціянскае еднасці людзей. Ідэю нацыі, гэткім чынам, можна разглядаць у якасці, так бы мовіць, прыступкі на шляху да спасціжэння больш глыбокай ідэі хрысціянскай сабornасці.

Культурнае і гістарычнае становішча Беларусі ў Еўропе шмат у чым унікальнае. Тут сыходзіліся розныя плыні хрысціянізацыі, перакрыжоўваліся розныя культурныя ўплывы. Гэта, так бы мовіць, мадэль Еўропы ў мініяцюры. Можна па-рознаму ацэньваць вынікі гэтых працэсаў для нацыянальнага лёсу нашага народа, але дзіўнай застаецца тая акалічнасць, што народ па сваім волевыяўленні ніколі не ставаўся ў той ці іншай сваёй частцы зацятым абаронцам і прыхільнікам розных рэлігійных і культурных новаўплываў. У нас на працягу ўсёй хрысціянскай гісторыі не адбывалася глыбокіх расколаў па рэлігійных прыкметах, што назіралася як на захадзе, так і на ўсходзе Еўропы. У нас не мелі месца крывавыя рэлігійныя войны, хаця народ і аказаўся канфесійна падзеленым. Дадзеную сітуацыю наўрад ці можна вытлумачыць рэлігійнай абыякавасцю народа. У гэтым найхутчэй выяўлялася і выяўляецца ягоная сапраўдная хрысціянскасць.

Ёсць падставы меркаваць, што прыняцце і распаўсюджанне хрысціянства на нашых землях было настолькі глыбокім і адметным працэсам, што вынікам яго сталася фармаванне пэўных тыпалагічных рысаў нацыянальнага характару беларусаў ужо ў XI—XII стст. Перадусім зварачае на сябе ўвагу тое, які характар насіў сам працэс хрысціянізацыі на нашых землях. Спашлемся ў дадзеным выпадку на меркаванні і выснову, якую робіць у звязку з гэтым гісторык С. Тарасаў. «Хрышчэнне Кіева адбылося ў водах Дняпра, куды Уладзімір загадаў загнаць усіх гараджан, паўтарыўшы амаль даслоўна выраз Хрыста: «Хто не са мной, той супраць мяне». Ноўгарад ваяводы Уладзіміра — Пуцята і Дабрыня — хрысцілі мячом і агнём. Гэта давала падставы лічыць, што падобным чынам адбылося і хрышчэнне Полацка. Але чаму ў такім выпадку на старонках вядомых нам летапісаў няма звестак аб хрышчэнні Ізяславам Полаччыны? Калі прычынай лічыць адсутнасць полацкіх летапісаў, то нават у такім выпадку летапісцы — манахі Кіева і Ноўгарада, якія падрабязна ўказвалі ўсе звесткі, наўрад ці абмінулі б такую падзею... Адсюль вынікае, што гвалтоўнага хрышчэння Полацкага княства не было» (падкрэслена мною. — А. А.).

Негвалтоўнасць хрышчэння і даволі шчыльныя стасункі з Візантыяй забяспечылі поспех распаўсюджвання вучэння Хрыстова, якое не магло не паўплываць на стан душы народа і мела вялікае выхаваўчае значэнне.

Плёнам гэтага глыбокага працэсу сталася тое, што ўжо ў XII стагоддзі з'яўляюцца такія магутныя духоўныя постаці, як Св. Ефрасіння Полацкая, Св. Кірыла Тураўскі, прэп. Марцін, Клімент Смаляціч і іншыя. Гэта былі не толькі бліскучыя апосталы Хрыстовай веры, але і ў пэўным сэнсе нашыя духоўныя фарпосты на поўначы, усходзе і поўдні старажытнабеларускіх земляў. Іхні ўплыў на беларускія землі быў выключны. Можна сцвярджаць, што XII стагоддзе на Беларусі было з'явай даволі адметнай ва ўсім усходнееўрапейскім хрысціянскім свеце, што давала магчымасць канкураваць нашаму духоўнаму цэнтру — Полацкаму княству — з Кіевам і Ноўгарадам.

Пра ўплыў першапачатковага хрысціянства на нацыянальны характар народа можна меркаваць па такой выдатнай постаці, як князь Ізяслаў, сын Рагнеды і Уладзіміра, з імем якога звязваецца хрышчэнне Полацкай зямлі. Як адзначаюць летапісцы, ён быў «ціхі і лагодны», рахманы і міласэрны, доўгацярплівы». Можна, зразумела, сказаць, што гэтыя рысы характару належалі толькі аднаму князю як асобе. Але чаму тады хрысціянства даволі хутка распаўсюдзілася на нашых землях і дасягнула такога росквіту? Пры негвалтоўнасці хрышчэння гэта магло адбыцца толькі дзякуючы яскраваму ўвасабленню хрысціянскіх цнотаў у жывых характарах нашых духоўных святацеляў і простых хрысціян. Гэткім чынам, прыняцце хрысціянства на нашых землях, як падаецца, было не столькі гістарычнай, колькі **глыбока ўнутранай** і характарафармуючай з'явай для для нашага народа.

Усцяж праз VIII і XIV стст. мы знаходзім у нашай гісторыі выдатных інакаў і манахаў, якія былі сапраўднымі ўгоднікамі Божымі, хаця і не ўслаўлены Царквой. У XIV ст. сваім пакутніцкім подзвігам вылучаюцца тры віленскія мяшчане Святыя Антоні, Іаан і Еўстафі. Трэба адзначыць тую важлівую акалічнасць, што культ хрысціянскага ўшанавання гэтых пакутнікаў быў надзвычай распаўсюджаны на нашых беларускіх землях амаль што да самага апошняга часу. Гэта было б немагчыма, калі б просты народ не адчуваў і ў сабе гэткіх жа самых схільнасцяў да хрысціянскага подзвігу доўгацярпення і самаахвярнасці.

Калі не тыпалагічнасцю адзначаных вышэй рысаў нацыянальнага характару, то чым тады можна вытлумачыць унікальную ва ўсёй Еўропе XV—XVI стст. сітуацыю духоўнай цярпімасці і талерантнасці, калі на Беларусі (Літве) ратаваліся ад рэлігійнага ўціску розныя «адступнікі» і «ерэтыкі» з Маскоўскай дзяржавы, такія, як, напрыклад, старац Арцемі? Дзіўна, але ў гэтай духоўнай сітуацыі лёгка прачытваецца сучасная еўрапейская дактрына недатыкальнасці правоў на свабоду сумлення, дактрына прававой дзяржавы, прамым пацвярджэннем чаго з'яўляецца існаванне юрыдычнага дакумента — Статута Вялікага княства Літоўскага.

Тыпалагічнасць рысаў, закладзеных першапачатковым хрысціянствам і выпакутаваных народам, прасочваецца і да нашых дзён; ад гістарычных постацяў Ізяслава і трох Віленскіх пакутнікаў — да Сотнікава, найбольш удалай інтэрпрэтацыяй вобраза якога, менавіта ў кантэксце хрысціянскай сімволікі, з'яўляецца фільм «Узыходжанне» рэжысёра Л. Шапіцькі.

Як гэта ні парадаксальна, але нават у такіх рысах нацыянальнага характару сучаснага беларуса як «кансерватызм», непанаднасць на розныя знешнія радыкальныя пераўтварэнні, знакамітая памяркоўнасць праглядвае іхняя тыпалагічнасць. Яны патрабуюць толькі сапраўднага свайго ўсведамлення, ачышчэння і прасвятлення паводле іхняга першаснага сутнаснага і духоўнага зместу. У першапачатковым сваім значэнні гэтыя рысы з'яўляюцца найкаштоўнейшымі рысамі нацыянальнай годнасці нашага народа.

●

Выказаныя меркаванні ні ў якім разе не прэтэндуюць на тое, каб вытлумачыць усю складанасць такой з'явы, як нацыянальны характар нашага народа. На яго фармаванне ўплывалі і іншыя падзеі культурнага і чыста сацыяльнага зместу.

У характары нашага народа ёсць і такія рысы, якія тыпалагічна звязаны з гістарычнымі трагедыямі ў ягоным жыцці, са стратай дзяржаўнай волі на цэлыя стагоддзі. Але ў нас ёсць і сапраўды каштоўныя рысы хрысціянскага даравання і надзеі.

Нарэшце, наша гісторыя — гэта не гісторыя захопаў суседніх нам народаў, не гісторыя культурнага ці палітычнага гвалту над імі. Нашыя грахі, прынамсі — не ў сіле і не ў спакусе панаваць над іншымі.



Фота А. КЛЕШЧУКА.

## Анкета «ЛіМа»



**Прыемна адзначыць, што на анкету «ЛіМа» адгукнуліся і нашы чытачы — настаўніца Алена Барадзіна, даследчык літаратуры Іван Чыгрын, іншыя. У наступным нумары мы завяршаем друкаванне адказаў, а покуль яшчэ раз паўторым пытанні па творчасці Максіма Гарэцкага.**

**1. Калі і пры якіх абставінах адбылося ваша знаёмства з прозай М. Гарэцкага?**

**2. Што ў яго асобе і творчасці падаецца вам вызначальным, сугучным сённяшняму дню, блізкім вам асабіста?**

# «Таемнае, шчыра-беларускае...»

Вельмі б хацелася быць арыгінальнай і пачаць свой допіс з таго, што кнігі Максіма Гарэцкага акружаюць мяне з часу, як усвядоміла сябе. Аднак... У маім школьным падручніку па беларускай літаратуры (70-я гады) звестак пра такога пісьменніка не было. Праўда, упаміналіся Алесь Гарун, Власт, Карусь Каганец, «ліберальна-буржуазныя» пісьменнікі, якія «...адыходзілі ад сучаснасці ў свет рэакцыйнай рамантыкі, ідэалізавалі феадальнае мінулае Беларусі». (Цытую па падручніку З. В. Барысенкі, В. У. Івашына 1978 года выдання). У гэтым сэнсе думаецца, што Максіму проста пашанцавала...

Як ні намагаюся, ўспомніць што-небудзь выразнае з курса інстытуцкіх лекцый па беларускай савецкай літаратуры, таксама нічога не атрымліваецца. Хаця ў студэнцкія гады не была заўважана сярод тых, хто вязаў на занятках джэмперы ці камізэлькі.

Не было патрэбы шмат гаварыць пра Гарэцкага і ў пазнейшы час, калі яму адвялі 28 радкоў у аглядзе беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя пры перавыданні вышэйпамянёнага падручніка, сарамліва прамаўчаўшы аб тым, якая такая хвароба скасіла пісьменніка ў самым росквіце яго жыццёвых і творчых сіл.

А потым на маім працоўным шляху былі першыя ў горадзе класы з паглыбленым вывучэннем беларускай літаратуры і тэма: «Максім Гарэцкі. Жыццёвы і творчы шлях. Апавяданне «Роднае карэнне». Аповесць «На імперыялістычнай вайне». І хаця на ўсё адводзілася 3 ўрокі, абмежавацца дваццацю васьмю радкамі не выпадала. Так адбылося маё блізкае знаёмства з творчасцю Максіма Гарэцкага. Да таго ж з'явіліся шчырыя, праўдзівыя матэрыялы ў перыядычным друку (у прыватнасці, у «Крыніцы»), з якіх паўставала асоба таленавітая, неардынарная і разам з тым сціплая, некрыклівая, як тое асяроддзе, у якім яна заканамерна сфарміравалася.

Сярод класічных твораў, што ўведзены ў школьную праграму, «Роднае карэнне» — удалае выключэнне. Голай ідэі, якая можа быць сфармулявана мёртвымі шаблоннымі фразамі, у ім няма.

Уражвае ў асобе Гарэцкага імкненне да самаўдасканалення, шырыня інтарэсаў, здольнасці, эрудыцыя.

«Канчаю апрацоўваць «Камунараў». Цяжка мне іх пісаць для друку, усё баюся, каб не зрабіць якой памылкі ў асвятленні», — піша Гарэцкі ў лісце за 10 снежня 1931 г. Але страх гэты прыйдзе потым. Пакуль жа — 1913 год, Максім піша як дыхае, лёгка і свабодна. Здаецца, што больш за ўсё яго цікавіць «таемнае, страшнае». Такім чынам аддадзена даніна шукальнікам прыгодніцкага элементу ў літаратуры. Але беларуская літаратура з часоў Скарынавага «понеже от прирождения птицы, летающие по небу, ведають гнёзды своя...» вылучалася высокім патрыятызмам. Ён гучыць і ў гэтым сінанімічным радзе: «Таемнае, страшнае, шчыра-беларускае». Ім прасякнута ўсё апавяданне. І яшчэ адзін аспект: філасафічнасць прозы Гарэцкага хутчэй правіла, чым выключэнне ў яго творчасці. Пры чытанні апавядання «Роднае карэнне» ў мяне міжвольна ўзнікла асацыяцыя з вершам Максіма Танка «Пра філосафаў». Герой гэтага апавядання добра ведаў і запомніў аднаго з народных філосафаў, сівога дзеда Яхіма, які даў маладому інтэлігенту тры парады: «Чытай, галубец, у кніжках і ў разумных людзей пытайся, як жылі даўней нашы тутэйшыя людзі... Часцей у роднае гняздзечка залятай, дык не будзе яно здавацца табе страшным... А яшчэ дадам: не забывай ты ў горадзе... за салодкімі напіткамі ды смачнымі дарагімі стравамі, не забывай ты спытаць у сябе: «А можа, цяпер у каго скарынкі хлеба няма?» І ведай тады, што адным енкам ды стагнаннем бядзе людской не паможаш. Помні, што каб другога вызваляць, трэба самому крэпкім быць, на сілы не ўпадаць, а то і самаго затопчуць...»

Прачытаўшы гэта, яшчэ раз недаверліва адгарнула дату напісання: сапраўды, 1913. А здаецца, што сказана сёння.

**Алена БАРАДЗІНА,**
**выкладчыца гімназіі № 1.**
г. Баранавічы.

# АДУЖАЎ ЧАС

Для мяне, чалавека пасляваеннага, выхаванага, так бы мовіць, на партызанска-патрыятычнай глебе, імя Максіма Гарэцкага доўгі час нічога не значыла. Першае маё знаёмства з яго творчасцю адбылося дужа позна. І сёння, прыгадваючы першую сустрэчу з «Красными розами» М. Гарэцкага, я шкадую, што не патрапіў на чалавека, які б падштурхнуў да добрай, глыбокай літаратуры. Хоць бы ў школе, ці ў тэхнікуме, ці пасля... Далей, ужо ў тэатральным інстытуце, яе пачала вымагаць будучая прафесія. І ўсё роўна гэта былі пакуль Колас, Купала, Мележ, потым ужо захапіўся Быкавым. І Караткевіча не было яшчэ.

Чэхаў, Горкі, Талстой, Даставеўскі, Хемінгуэй і ніяк не Мрый, не Гарэцкі, нават Купала быў такі, якога ад мяне хавалі!

Калі, дапытваючы сваю драматургію, сутыкнуўся ўрэшце з Максімам Гарэцкім, першае, што мяне ўразіла, гэта тое, што — не з мужыкоў. Паходжаннем не з лапцей, нават не з ботаў. Тое, што беларус мог быць з чаравікаў, мне было неяк нязвыкла, затое недзе там, унутры, салодка казытала і абнадзейвала. Усё-такі і ў нас ёсць! Сёння гэта ўжо смешна, бо ведаю, што было і еўрапейскае адзенне на беларусу. І Купала са школы навязваўся нам як мужык.

Пасля таго, як надрукавалі Шашалевіча, лягчэй уздыхнулася. А «Дзве душы»? Было, усё ў нас было, і калі б не перарвала гэтая жудасная сістэма паўнакроўнага жыццёвага працэсу нашай літаратуры, то ўсё ў нас магло б ужо быць. У дачыненні да тэатра, прынамсі, мы мелі б не толькі трох вядомых драматургаў — Крапіву, Макаёнка, Дударава, але і моцную інтэлектуальную аснову для тэатральнага працэсу і самае галоўнае — свядомую ў сваіх каранях.

Я не тэарэтык, я практык і адчуваю ў Гарэцкім паўнавартага драматурга. У ім, акрамя шырокай адукаванасці, што так важна, прысутнічае яшчэ і багатая інтуіцыя, падрабязнасць псіхалагічнага малюнка. Дзеючыя асобы ў яго жывуць без натужнай прыдумкі. Яны не вымушаны гаварыць аўтарскі тэкст, а жывуць, дзейнічаюць. Усё тое нямногае з яго драматургічных абразкоў гаворыць аб моцным драматургу. «Антон», маленькая п'еска «Атрута...» Калі чытаеш яе сёння, то дзіву даешся таму болю, якім прасякнуты гэты твор на дзвюх старонках. І хто ведае, можа, у хуткім часе мы знойдзем агульную мову на нашых падмостках. Нядаўна мае студэнты прынеслі для работы (адкапалі для сябе) яшчэ адзін твор — «Мутэрку».

Што гэта? Час мяняецца ці аўтар усё-такі адужаў час?

**Валерый МАЗЫНСКІ,**
**рэжысёр.**

# НАМ ДА ЯГО ІСЦІ ДЫ ІСЦІ

Толькі што закончыў працу над манаграфіяй «Паміж былым і будучым» пра прозу Максіма Гарэцкага. Першы дотык да творчасці гэтага пісьменніка ў мяне адбыўся не меней як 30 гадоў назад, калі абдумвалася тэма кандыдацкай пра мастацкае станаўленне беларускай прозы.

Але асноўныя цяжкасці для мяне пачаліся пазней—тады, калі ўзнікла патрэба адчутае, зразумелае, асэнсаванае прабіваць у людзі. На абароне дысертацыі нечаканым (хаця і чаканым) пытаннем мяне спыніў Кандрат Крапіва, самы аўтарытэтны тады член Вучонага савета:

— Дык вы ставіце прозу Максіма Гарэцкага вышэй за прозу Якуба Коласа?

Даводзілася пераконваць жывога класіка, што Максім Гарэцкі таксама вялікі і чаму вялікі. Нялёгкая, скажу вам, была гэта задача, асабліва ў той сітуацыі, калі мой навуковы кіраўнік (потым казалі, што з тактычных меркаванняў) ад свайго аспіранта толькі што публічна адмежаваўся, кінуўшы ў залу не без хітрага намёка апраўданне:

— У дысертанта ёсць свая галава на плячах.

Справа ў тым, што ўжо тады я прыйшоў да высновы (ад чаго не адракаюся і сёння), што М. Гарэцкі абазначыў наступны пасля Якуба Коласа этап у мастацкім сцвярджэнні беларускай прозы перыяду яе станаўлення. Дакаралі, што залішне вялікую ролю адводжу крамольнаму пісьменніку, што М. Гарэцкі, наогул, не тая велічыня, каб яго творы параўноўваць з творамі тых, чый аўтарытэт кананізаваўся, і г. д. І ўсё-такі прарыў быў зроблены. Дапамагла хрушчоўская адліга. Інстытутам літаратуры ўрэшце быў запланаваны асобны раздзел пра творчасць М. Гарэцкага для «Гісторыі беларускай літаратуры». К гэтаму часу лабачыў свет нарыс Д. Бугаёва «Максім Гарэцкі». У 1971 г. выйшла з друку і мая кніжка «Станаўленне беларускай прозы і фальклор. Дакастрычніцкі перыяд», трэці раздзел якой напалову прысвечаны творчасці М. Гарэцкага. Рыхтаваўся да друку двухтомнік. У 1980 г. было апублікавана даследаванне Алеся Адамовіча «Браму скарбаў сваіх адчыняю...»

Так было некалькі дзесяцігоддзяў назад. Але і сёння, у постперабудовачны час, літаратуразнаўцам працуецца не лягчэй. І дзіўнага тут нічога няма. Нават самыя радыкальныя ў мінулым даследчыкі літаратурнага працэсу (дапусцім, што яны сёння кіруюць інстытутамі, бо магчымы і горшыя варыянты) як творчыя асобы складваліся пад сцягам сацыялістычнага рэалізму і, значыць, іхнія творчыя схемы, што дазвалялі ў свой час ганарова трымацца на паверхні, а то і на грэбені хваляў, сёння нелітасціва састарэлі (вектар часу ж на 180° павярнуўся ў іншы бок), а новыя ствараюцца не так лёгка. Даводзіцца карыстацца старымі, у лепшым выпадку латаць-пералатваць, як свой кажух стары Анісім (успомнім апавяданне Якуба Коласа). Вось і атрымліваецца, што Максім Гарэцкі для некаторых па-ранейшаму ніякі не класік, аповесць «Антон» ніякі не мастацкі твор, «Дзве душы» ўсяго толькі рэмінісцэнцыя чужога рамантычнага сюжэта...

Што мяне найбольш уразіла ў творчасці і асобе Максіма Гарэцкага? Найперш непадобнасць ні на кога з тых, услед за кім ён прыйшоў у беларускую літаратуру, іншымі словамі — падкрэслена выяўленая творчая самабытнасць.

Другое,—таленавітасць, якая звязана не толькі з уменнем данесці да чытача думку, але і дайсці да яе, г. зн. сцвердзіць непаўторнае, дасюль нікому невядомае. Такім ён, напрыклад, з'явіўся перад чытачом у аповесцях «На імперыялістычнай вайне» і «Дзве душы», дарэчы, творах вельмі розных паводле і фармальнай і ідэйнай сутнасці. Нічога падобнага беларуская проза да М. Гарэцкага не мела. Тут ён ва ўсіх адносінах першаадкрывальнік. І не толькі новых тэм — філасофіі быцця ў пэўных ракурсах адкрывальнік. Не трэба забываць, што беларуская празаічная мастацкая традыцыя толькі складвалася (на першым плане стаяла праблема паскоранага развіцця) і што без яе выйсці да твораў падобнага ўзроўню было неверагодна цяжкай справаю.

Маштабнасцю асобы сваёй уражвае М. Гарэцкі. Чалавечай вышынёй уражвае. Сярод беларускіх пісьменнікаў, якіх накрыла эпоха Сталіна сваім вогненным валам, другога такога, можа, і няма.

**Іван ЧЫГРЫН.**

Літаратурна-мастацкія часопісы быццам папаборнічалі, хто лепей пакажа сябе на пачатку чарговага года. Таму так шмат у іх цікавых, змястоўных публікацый. Як кажуць, пачынаць 1993-ці, дык пачынаць!

«ЛіМ» пісаў ужо пра аповесць В. Быкава «Сцюжа», змешчаную ў першай кніжцы «Полымя» («На пятым месяцы вайны», «ЛіМ», 29 студзеня 1993). Упэўнена трымаюць палымянскую марку і іншыя творы — як прозы, так і паэзіі, публіцыстыкі, літаратуразнаўства. Няхай сам чытач разбіраецца, на што (пасля быкаўскай аповесці, безумоўна) звярнуць увагу. А мне хочацца пагаварыць пра першы нумар «Маладосці», а найперш — пра «Аповесці Івана Андрэевіча», напісаныя І. Шамякіным. Зрэшты, калі папраўдзе, гэта цэласны твор у дзвюх частках. І не толькі таму, што ў іх адзін галоўны герой — знакаміты літаратар, лаўрэат розных прэмій і ўзнагарод Іван Андрэевіч. Лучыць «Аповесці...» і агульнасць матываў. Аўтар спрабуе ўявіць сабе, да чаго можа прыйсці неўзабаве наша грамадства, калі будуць працягвацца далей працэсы дэградацыі асобы, страта маральных і эстэтычных каштоўнасцяў, не кажучы ўжо пра развал у эканамічным жыцці.

Проза І. Шамякіна заўсёды была моцная публіцыстычнасцю. Сёй-той з крытыкаў гатовы быў бачыць у гэтым ці не іх слабіну, сцвярджаючы, што ўсё, маўляў, пішацца на «злобу дня». Магчыма, знойдуцца ахвотнікі гэтак жа паставіцца і да новага твора. Што ж, людзям не загадаеш. Самі ж «Аповесці...», калі чытаць іх непрадузята, даюць вялікую спажыву для роздуму аб супярэчлівым часе, у якім мы жывём. Пісьменнік наўмысна нагрувашчвае ўсё негатыўнае. Але ў гэтым — папярэджанне, перасцярога. Ён проста-такі заклікае: «Адумайцеся, людзі, ці так жывём, як трэба? Ці не атрымліваецца, што самыя лепшыя жаданні нашы разыходзяцца з рэчаіснасцю?» Грамадства ж гэтак рэзка палярызавалася. І самае страшнае тое, што надышоў момант, калі ў гэ-

З творчасцю многіх сяброў беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», якое месціцца ў Беластоку, чытачы Беларусі добра знаёмыя. Асабліва з жыццёвым і творчым шляхам такіх аўтараў, як Сакрат Яновіч, Алесь Барскі, Віктар Швед, Ян Чыквін, Мікалай Гайдук, Васіль Петручук, творы якіх асобнымі кнігамі выдаваліся і ў нашай рэспубліцы. Але побач з гэтымі майстрамі слова жывуць у Польшчы і малавядомыя нам літаратары, якія часта друкуюцца ў беластоцкім тыднёвіку «Ніва», беларускіх календарах, калектыўных зборніках і альманахах і нават выдалі свае кніжкі. Я маю на ўвазе такіх «белавежцаў», як Дзмітры Шатыловіч, Янка Целушэцкі і Юрка Баена.

Старэйшы з іх Дзмітры Шатыловіч жыве ў Варшаве. Нарадзіўся ён у 1926 годзе ў вёсцы Чаромха на Беласточчыне. У час нямецка-фашысцкай акупацыі быў вывезены на прымусовую працу ў Германію.

Пасля прыходу Савецкай Арміі быў вызвалены і накіраваны на фронт. Дэмабілізаваўшыся, вярнуўся на радзіму. Вучыўся ў беларускай гімназіі і польскім ліцэі ў Бельску-Падляскім. Закончыў таксама Ленінградскі электратэхнічны інстытут. Працаваў у міністэрстве энергетыкі ў Варшаве, а таксама ў Югаславіі і Індыі...

Першыя свае вершы Дзмітры Шатыловіч надрукаваў у газеце «Ніва» ў 1957 годзе. А ў 1992 годзе з друку выходзіць яго першы паэтычны зборнік «Эцюды падарожжа», які ўмоўна можна падзяліць на тры

**ЧАСОПІСЫ Ў СТУДЗЕНІ**

# ВЕЧНАСЦЬ, НАРОДЖАНАЯ З ІМГНЕННЯЎ

тай палярызацыі ўсе даўно сталі чужымі, ніхто не думае пра іншых, а жыве толькі ўласнымі клопатамі, заклапочаны найперш здабываннем хлеба надзённага. Людзі ў галечы, людзі галадаюць. Каб выжыць, накарміць унучку, знакаміты літаратар Іван Андрэевіч вымушаны прадаваць уласныя кнігі, у тым ліку так званыя аўтарскія экземпляры. Не ў лепшым становішчы і вядомы мастак Міхаіл Рачыцкі...

Чытаючы «Аповесці...», адразу заўважаеш, што І. Шамякін, узіраючыся ў дзень заўтрашні, з трывогай прыглядаючыся да яго, знаходзіцца найперш у дні сённяшнім. Як і яго герой Іван Андрэевіч, ён не можа спакойна назіраць, як флюгерства стала ледзь не нормай паводзін, як прыстасавальніцтва сім-тым ужо ставіцца ў заслугу, узорам таго, як трэба жыць.

І. Шамякіным створаны шэраг запамінальных вобразаў гэткіх джэнтльменаў перабудовы. Адзін дырэктар пісьменніцкага выдавецтва Нарцыз Хіхель чаго варты! Трымаючы нос па ветры, ён у першую чаргу выдае толькі ўласных сяброў: «Дырэктару за гэта перамывалі косці на кожным сходзе, але Нарцыз атрасаў крытыку, як гуска ваду, і ўвогуле лічыў яе вынаходніцтвам камуністаў. І ні на кога за крытыку не крыўдаваў ці ва ўсялякім разе выгляду не паказваў, з усімі быў запанібрата. Панібрацтва гэтае даходзіла да хамства, калегам, старэйшым за яго роўна ў два разы, казаў «ты» і ляпаў па плячы: «Нічога, не бядуй, дзядзька Янка! Будзем жыць! не памром!»

З такой жа пароды—і народны дэпутат Тухта, і намеснік рэдактара афіцыёзнага выдання «Стругач», якія ў сваіх дзеяннях абскокваюць нават Хіхеля.

Паразважаць, падумаць ёсць над чым. І нам, чытачам, і... прататыпам асобных персанажаў. І. Шамякін піша бескампрамісна, не баіцца, што, магчыма, некаторыя пазнаюць сябе. Не можа маўчаць слынны майстра, не можа. Таму і новы яго твор такі надзённы і грамадска значны...

«Маладосць» з нумара ў нумар шчодра прадстаўляе і маладую прозу. На гэты раз апублікаваны апавяданні М. Касцюкевіча, А. Федарэнкі і У. Сцяпана. З павагай ставячыся да таленту ўсіх трох аўтараў, усё ж скажу, што А. Федарэнка ў параўнанні з імі выйграе. Два яго новыя апавяданні «Начны голас» і «Рэклама» — сапраўдная пісьменніцкая ўдача. А не сказаць, што А. Федарэнка ўзяў нейкія арыгінальныя жыццёвыя сітуацыі. Тут ужо сапраўды падыходзіць сцвярджэнне аб тым, што талент або ёсць, або яго няма. У А. Федарэнкі — ёсць, і прытым Богам дадзены. За гэта гавораць і такое хуткае сталенне маладога аўтара, і адзнака яго твораў на конкурсах.

Раю прачытаць і аповесць Т. Бондар «Імем Айца і Сына». Зрэшты, можна і пачакаць, пакуль прыйдзе чарговы нумар, паколькі ў першым — толькі пачатак яго. Бо не сумняваюся: рэдакцыі «расцягваюць» публікацыю твораў найперш дзеля таго, каб зацікавіць чытача. Прынамсі, у дачыненні да аповесці Т. Бондар гэта, безумоўна, спрацоўвае: аўтар умее будаваць сюжэт, не кажучы пра тое, што надзвычай уважліва ставіцца і да раскрыцця характараў.

Нямала ў нумары і паэтычных публікацый — вершы Р. Барадуліна, Л. Медзіч, Э. Акуліна, С. Сяргея, М. Чарняўскага, В. Яраца. У кожнага з іх — свой голас, сваё ўспрыманне свету. І жаданне адчуць складанасць і супярэчлівасць часу. Праўда, і ў матывах традыцыйных сапраўдны творца здатны ўбачыць сваё, іншымі не заўважанае. Што гэта сапраўды так, пераконвае верш Р. Барадуліна «Імгненне», які хочацца прывесці цалкам:

**І цень звініць,**
**І дол пяе,**
**І смутак будзіцца калішні.**
**А вочы спелыя ў яе,**
**Як неабтрэсеныя вішні.**

**А бровам пырхнуць бы**
**ў гульбе,**
**Як беражанкам з-пад**
**узмежка.**
**Зірнеш і чуеш—**
**У цябе**
**На вуснах маладзее**
**ўсмешка.**

Часопіс працягвае рубрыку «З архіва КДБ»: Э. Ліпецкі і У. Міхнюк расказваюць пра трагічны лёс А. Цвікевіча, аднаго з ахвяр сталінізму, публікуюць некалькі яго паказанняў.

Звычайна рэдакцыя стараецца завяршыць тую ці іншую публікацыю на працягу года. У гэтым плане «Гісторыя Беларусі ў ілюстрацыях» М. Чарняўскага, якая друкавалася на працягу мінулага года і прадоўжана ў сёлетнім, як кажуць, выключэнне з правілаў. Болей бы такіх публікацый, глядзіш—мо і хутчэй пазбавіліся б мы нацыянальнага нігілізму, ачуньвалі б ад бяспамяцтва.

Такой высакароднай мэце, бадай, падначалена і новая рубрыка часопіса «Беларусь»—«Сілуэты на фоне эпохі». Як заяўляе рэдакцыя, яна «мае намер пазнаёміць чытачоў з іменамі выдатных людзей, якія належаць гісторыі і нашчадкам, належаць нам з вамі». Праўда, хацелася б, каб у спісе гэтым меней было тых, пра каго ўжо расказалі больш-менш падрабязна іншыя выданні. І добра, як бачна з першай публікацыі, што рэдакцыя паўтараць іншых не збіраецца. І. Калюта і А. Шабалін знаёмяць чытачоў з археолагам, філосафам і краязнаўцам І. Стаброўскім — чалавекам неардынарнага лёсу, стваральнікам Слонімскага краязнаўчага музея. Яшчэ ў 1929 годзе, калі ўсё беларускае забаранялася. На жаль, пра І. Стаброўскага ўсе мы ведаем вельмі мала. Прынамсі, ведалі да згаданай публікацыі.

Ну і, канечне, не болей ведалі пра Т. Кебіч. Хто такая? Маці нашага Старшыні Савета Міністраў. А чаму б і не пазнаёміцца з ёй бліжэй? Ва ўсім цывілізаваным свеце падобная цікавасць заганнай не лічыцца. Відаць, так лічаць і ў рэдакцыі «Беларусі». Гутарка М. Васькова з Таццянай Васільеўнай змешчана пад рубрыкай «Знаёмыя незнаёмцы». Яе, дальбог жа, варта прачытаць! Шчыра, задушэўна расказвае Т. Кебіч пра сваё жыццё-быццё.

Не хацелася б, каб чытачы прамінулі і раздзел з рамана К. Акулы «Змагарныя дарогі», які рыхтуецца да выпуску ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Кароткае слова напісаў У. Арлоў, мо нават завельмі кароткае, бо трэба было б бліжэй пазнаёміць чытача з аўтарам рамана.

З арыгінальных публікацый «Нёмана» (у перакладзе на рускую мову змешчаны вершы Р. Барадуліна, аўтабіяграфічная аповесць С. Грахоўскага «З воўчым білетам») на адным, як кажуць, дыханні чытаюцца «Самалячэнне ад камунізму» А. Адамовіча і аб'яднаныя адной назвай «Будаваць сваю хату» матэрыялы, што тычацца І Усебеларускага кангрэса і падзей вакол яго. У адным выпадку — наша сучаснасць, што становіцца пастулова мінулым (М. Гарбачоў і яго эпоха), у другім—мінулае, якое працуе на сучаснасць. Што ж, вечнасць (гэта не нова, канечне) і нараджаецца з імгненняў. Калі да іх ставіцца ўважна і паважна.

**М. АНДРЭЕНКА.**

**ВЫДАДЗЕНА Ў ГЛЫБІНЦЫ**

## «ЯНКА КУПАЛА І СЛОНІМШЧЫНА»

**Так называецца невялікая, але прыгожа афармленая кніжачка, аддрукаваная ў Слонімскай узбуйненай друкарні. Аўтар яе — мясцовы малады даследчык беларускай літаратуры Сяргей Чыгрын. Па крупінках сабрана амаль усё, што звязвала песняра з гэтым куткам Бацькаўшчыны. У вёсцы Вялікая Кракотка, напрыклад, упершыню ў Беларусі было прысвоена імя Янкі Купалы мясцовай бібліятэцы. Тут два разы пабывала жонка паэта У. Луцэвіч. Ды і сам Я. Купала ў 1939 годзе наведаў Слонім, сустракаўся з Г. Леўчыкам і С. Новікам-Пеюном.**

**У шчырых адносінах пясняр быў са слонімцамі Я. Хлябцэвічам, А. Пракапчуком, К. Пушкарэвічам, В. Таўлаем, А. Іверсам, К. Лейкам і інш. А А. Лойка ў 1982 годзе выдаў кнігу пра Я. Купалу ў вядомай серыі «ЖЗЛ».**

**Аўтар уключыў у кніжачку і вершы паэтаў Слонімшчыны, прысвечаныя Я. Купалу. Гэта творы Г. Леўчыка, В. Таўлая, А. Лойкі, М. Арочкі, І. Чыгрына, А. Сучка і іншых.**

**Тыраж выдання — пяць тысяч паасобнікаў. Выпуск кнігі фінансавала Слонімская цэнтральная бібліятэка імя Я. Коласа.**

**А. ЛЫСІК.**

## ЗВЯЗАНЫ З ГОРАЦКАЙ ЗЯМЛЁЙ

**Амаль дваццаць пяць гадоў дырэктар Горацкага гісторыка-этнаграфічнага музея У. Ліўшыц збірае матэрыялы, дакументы, якія апавядаюць аб *пісьменніках, чый лёс звязаны* з Горкамі. Звесткі гэтыя можна знайсці ў брашуры «Раскопкі вакол горацкага «Парнаса», выпушчанай нядаўна Магілёўскім абласным таварыствам аматараў кнігі сумесна з горацкім музеем.**

**Падрабязна расказваецца пра горацкі перыяд М. Гарэцкага, паэта С. Фаміна, паэта-перакладчыка Ю. Гаўрука, пісьменніка Л. Разгона, які нарадзіўся ў Горках, аб наведанні раённага цэнтра Я. Купалам і Я. Коласам, прыводзяцца іншыя звесткі.**

**М. СТУДНЕВА,**
**супрацоўнік Горацкага музея.**

# МАЛАВЯДОМЫЯ «БЕЛАВЕЖЦЫ»



Д. ШАТЫЛОВІЧ.



Я. ЦЕЛУШЭЦКІ.



Ю. БАЕНА.

раздзелы. У першы ўвайшлі вершы-ўспаміны з юнацкіх гадоў, другі раздзел склалі некалькі вершаў з франтавых дарог. Але найбольш у зборніку радкоў, прывезеных з розных куткоў далёкіх і блізкіх краін. Адны назвы «Храм у Чэрмнай», «Запіскі з Варны», «Дзень у Ленінградзе», «Ля возера Рыца», «Вечар у Кіславодску», «Перад афінскім Акрополем», «У Літахароне» і іншыя — гэта паэтычная геаграфія зборніка. Добра пра гэта сказаў неяк Віктар Швед: «Цікавы цыкл вершаў Д. Шатыловіча, з яго замежных паездак, у якіх, стоячы на руінах старажытнасці, мінулае спалучае з сённяшнім светаадчуваннем. Шатыловіч, хоць піша рэдка, аднак піша ён з размахам, любіць маляваць шырокія палотны, яго творы прадстаўлены ў традыцыйнай эпічна-апавядальнай інтанацыі»:

**Пляц малы пры дарозе,**
**а побач царква**
**Светла-жоўтымі фарбамі**
**вабіць навокал,**
**Пад прыстанішча муз,**
**дзе мы сёння былі,**
**А другая ля дзіўных далін**
**Эніпефса.**
**Мы глядзім на вялізны**
**бліскучы масіў**
**У праменнях гарачых**
**паўднёвага сонца;**
**Сівізною снягоў нехта**
**горы прыкрыў,**
**І яны, як гіганты, тырчаць**
**там бясконца...**

Сёлета ў Польшчы на беларускай мове выходзіць з друку і другая кніга вершаў Дзмітры Шатыловіча «Маё Падляшша».

Журналіст Янка Целушэцкі нарадзіўся на Беласточчыне ў вёсцы Новае Ляўкова ў 1944 годзе. Пасля заканчэння Варшаўскага універсітэта вярнуўся ў родны Беласток, дзе шмат гадоў працаваў і супрацоўнічаў з беларускай газетай «Ніва». Сяброўства гэтае працягваецца і зараз, хоць працуе спадар Я. Целушэцкі ў польскай «Газэце Вспулчэснай». Дарэчы, для яе ён шмат перакладае на польскую мову творы беларускіх аўтараў, цікавыя і сенсацыйныя паведамленні з беларускага друку.

Што датычыць «Нівы», дык на яе старонках Янка Целушэцкі друкуецца больш чвэрці стагоддзя. Тут змяшчае ён і вершы, і апавяданні, і пераклады, і нават фотаздымкі.

У 1991 годзе ў Беластоку выходзіць з друку першы зборнік Янкі Целушэцкага «Імгненні». Яго склалі паэтычныя мініяцюры, вершы і кароткія апавяданні. Напісаны яны ад шчырага сэрца, проста і даступна чытачам. Аўтар раскрыў складанасць узаемаадносін чалавека з навакольным светам, прагу глыбокіх пачуццяў. У дасканалых, кранальных вобразах ён увасобіў успаміны аб вясковым маленстве, чалавечае сталенне, узнёсласць і драматызм юначага кахання.

Чытаючы «Імгненні» Янкі Целушэцкага, адразу адчуваеш, што літаратар вырас на народнай традыцыі. Вельмі часта, і гэта добра, у яго вершах паяўляюцца то вясковы адвячорак, то жніво, то проста дзявочыя спевы вечарамі:

**Сонца выпіла**
**расу з кілішкаў**
**павітухі,**
**даспелы колас**
**пахне лустай**
**хлеба,**
**вецер, заслуханы**
**ў канцэрт жняярак,**
**дрэмле,**
**свежая пожня**
**вастрэе ў спякоце,**
**снапы цалуюць**
**зямлю.**

Аднаму з маладых «белавежцаў» Юрку Баену ў мінулым годзе споўнілася трыццаць пяць гадоў. Нарадзіўся ён у вёсцы Мокрае каля Бельска-Падляскага. У 1980 годзе скончыў геаграфічны факультэт Люблінскага універсітэта. Цяпер працуе настаўнікам геаграфіі ў беларускай пачатковай школе № 3 у Бельску.

У друку дэбютаваў у красавіку 1973 года вершам «Дом» у «Ніве». Друкаваўся таксама ў зборніках «Белавежа», «Гасцінец», беларускіх календарах і «Ніве».

У 1991 годзе з друку выходзіць яго першая паэтычная кніжка «Лісты блакітных успамінаў». Сюды ўвайшлі вершы аб прыродзе, а таксама тыя, у якіх адчуваецца вялікая любоў да бацькоўскай зямлі і роднага краю.

Юрка Баена вельмі дасціпна і хораша апісвае дрэвы і кветкі эдэльвейс, баабаб, сланечнік, ландыш, ружу. З імі паэт умее гаварыць, дзяліцца сваімі трывогамі і планамі, яны — нібы яго жывыя сябры:

**Эдэльвейс! Зара пад небам!**
**Аб табе ўсё сняцца сны,**
**З табой яднаюся я сэрцам.**
**І яшчэ, здаецца мне,**
**Што ў штодзённасці,**
**ў жыцці**
**Часта іду тваім я следам.**

Акрамя паэзіі, Юрка Баена даследуе геаграфію і гісторыю Беларусі. Добра запомніўся мне ягоны артыкул пра Зыгмунта Глогера, які быў надрукаваны ў 1987 годзе ў «Ніве». Для цікаўных нагадаю, што Зыгмунт Глогер — гэта польскі і беларускі археолаг, этнограф, гісторык, аўтар «Гістарычнай геаграфіі», «Польскага года» і «Старапольскай энцыклапедыі». Шмат падарожнічаў і жыў на Беларусі, а апісанні розных экскурсій выдаў у 1903 годзе ў кніжцы «Далінамі рэк. Апісанні падарожжаў уздоўж Нёмана, Віслы, Буга і Бебжы». Сябраваў з М. Федароўскім і Я. Карловічам, быў жанаты на Алесі Ельскай — дачцэ беларускага этнографа, гісторыка і пісьменніка Аляксандра Ельскага...

Вось такія яны, малавядомыя беларускія «белавежцы», з Польшчы.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**



# СЛУЖЫМ АЙЧЫНЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ВАЙСКОЎЦАЎ


## ДА СЯБРОЎ БЗВ

**Амаль што паўтара гады дзейнічае на Беларусі арганізаваны патрыятычны грамадскі вайсковы рух. За гэты час намаганні сяброў і прыхільнікаў БЗВ па ўзмацненні суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, патрыятычным выхаванні насельніцтва і беларускіх вайскоўцаў прынеслі плён — утвораны Узброеныя Сілы краіны, пачалося вывучэнне ў войску беларускай мовы і гісторыі Беларусі, з «гарачых» кропак СНД вяртаюцца беларусы-вайскоўцы, каб служыць сваей Бацькаўшчыне.**

**Напярэдадні 1993 года ўвесь асабовы склад Узброеных Сіл быў прыведзены да ваеннай прысягі на вернасць беларускаму народу і Рэспубліцы Беларусь.**

**Першы сход беларусаў бліжняга замежжа, які праходзіў 19 — 20 снежня 1992 года, станоўча ацаніў і ў сваім звароце да Вярхоўнага Савета і Урада рэспублікі падтрымаў патрыётаў-вайскоўцаў за іх адданасць беларускай зямлі і яе народу, шчырае жаданне адстаяць незалежнасць Беларусі, дэмакратычны канстытуцыйны лад, абараніць матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці сучасных і мінулых пакаленняў.**

**Сёння прэс-цэнтр БЗВ з дапамогай рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» выпускае ў свет інфармацыйны бюлетэнь БЗВ «Служым Айчыне». Патрэба такога выдання інфармацыйнага бюлетэння наспела даўно, аб гэтым вялі размову сябры і прыхільнікі БЗВ шмат часу. Але ж тэхнічныя, арганізацыйныя і матэрыяльныя пытанні не дазвалялі гэтага зрабіць раней.**

**Мяркуецца, што на старонках інфармбюлетэня, які будзе выходзіць штомесячна, будуць артыкулы, прысвечаныя дзейнасці не толькі Выканаўчай Рады, але і суполак БЗВ, матэрыялы па актуальных пытаннях беларусізацыі вайсковых падраздзелаў, часцей і ваенных устаноў Беларусі, патрыятычнага выхавання вайскоўцаў і ўсяго грамадства. Карацей, агульнымі нашымі намаганнямі, спадзяюся, карысць ад пачатай справы павінна быць. Будзем чакаць вашых лістоў, шаноўнае спадарства. Прысылайце свае лісты на адрас рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» з паметкай: Інфармацыйны бюлетэнь «Служым Айчыне». Калі хто будзе мець магчымасць матэрыяльна падтрымаць беларускі вайсковы патрыятычны рух — можаце дасылаць грашовыя сродкі на рахунак БЗВ N 700210 МФО 767 у Камерцыйным банку «Дукат» г.Мінска, кантактны тэлефон БЗВ: 46—46—91.**

**Аляксандр КУЛЕШ,**
**падпалкоўнік,**
**старшыня прэс-цэнтра БЗВ.**

# БЕЛАРУСКАЕ ВОЙСКА ПАВІННА БЫЦЬ БЕЛАРУСКІМ

Беларускае згуртаванне вайскоўцаў вельмі ўважліва ставіцца да праблем патрыятычнага выхавання ў вайсковых падраздзелах і ваенных установах Рэспублікі Беларусь. У апошні час канструктыўныя намаганні Міністэрства аброны ў накірунку вывучэння вайскоўцамі беларускай мовы і гісторыі Беларусі ў службовыя часы гуманітарнай падрыхтоўкі ўспрымаюцца станоўча грамадскасцю нашай рэспублікі.

Аднак жа, нягледзячы на патрабаванне Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь», дырэктывы Міністэрства абароны ад 2.07.1992 N15/16, працэс вывучэння беларускай мовы ў войску ідзе вельмі марудна, значная частка афіцэраў, асабліва кіраўнікоў, не звяртаюць увагі на прапановы і патрабаванні Міністра абароны на гэты конт. З прапаршчыкамі і вайскоўцамі тэрміновай службы, курсантамі ваенных навучальных установ заняткі не толькі не праводзяцца, але і не прадугледжваюцца. Няма ніякай матэрыяльнай зацікаўленасці афіцэраў у вывучэнні, веданні і выкарыстанні беларускай мовы ў службовых варунках. Па меркаванні большасці афіцэраў, у тым ліку і тых, хто ніколі раней не вывучаў беларускую мову, калі б была прадугледжана грашовая даплата за карыстанне беларускай мовай на службе, справа пераходу Узброеных Сіл на дзяржаўную мову пайшла б лягчэй. Пакуль што недастатковая колькасць падручнікаў і слоўнікаў для правядзення заняткаў і самападрыхтоўкі ў вайсковых падраздзелах і ваенных установах. Вельмі здзіўляе той факт, што з курсантамі Мінскага вышэйшага ваеннага інжынернага вучылішча ні разу ні аднаго занятку па вывучэнні беларускай мовы не праводзілася — няма ўказання на гэты конт з боку Міністэрства абароны.

Добрыя намеры ўпраўлення выхаваўчай працы Міністэрства абароны па вывучэнні беларускімі вайскоўцамі гісторыі Беларусі ў часы гуманітарнай падрыхтоўкі не заўжды даюць станоўчы вынік. Прапанаваная методыка вывучэння гістарычнага матэрыялу генераламі і афіцэрамі ў выглядзе самастойнай падрыхтоўкі без дастатковай колькасці падручнікаў і дадатковай метадычнай літаратуры прывяла да таго, што ў вайсковых частках і ўстановах вывучаюць гісторыю Беларусі толькі адзінкі з афіцэраў. Калі ўлічваць, што сярод афіцэраў абсалютная большасць тых, што не вывучалі ні беларускай мовы, ні гісторыі Беларусі, такі стан працы не можа нікога задаволіць.

Не робяцца пакуль што адпаведныя захады па выданні сучасных сродкаў нагляднай агітацыі па гісторыі Беларусі, а яны вельмі патрэбны ў войску. Шэраг прапаноў БЗВ да Міністэрства абароны аб мэтазгоднасці выдання камплектаў партрэтаў з адпаведным гістарычным агітацыйным матэрыялам славутых беларускіх ваяроў, якія можна было б выкарыстоўваць на занятках па гуманітарнай падрыхтоўцы, для афармлення пакояў інфармацыі і адпачынку, вучэбных кабінетаў па гісторыі Беларусі, службовых памяшканняў у вайсковых падраздзелах і ваенных установах, пакуль што станоўча не ўспрыяты.

Выклікае пэўную заклапочанасць той факт, што ў ваенных навучальных установах пакуль не ідзе перапрацоўка тэматычных вучэбных планаў па гістарычных дысцыплінах у накірунку падрыхтоўкі выкладання гісторыі Беларусі, што адпавядала б тэматычнаму плану гуманітарнай падрыхтоўкі афіцэраў, прапаршчыкаў і вайскоўцаў тэрміновай службы.

У сувязі з гэтым само жыццё падказвае шэраг патрэбных крокаў, накіраваных на ўзмацненне працэсу патрыятычнага выхавання вайскоўцаў, беларусізацыі Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

Па-першае, зыходзячы з таго, што вайсковая служба з'яўляецца дзяржаўнай службай, і ў сувязі з тым, што большасць афіцэраў не валодае ці валодае дрэнна беларускай мовай, неабходна іх зацікавіць матэрыяльна і ўвесці даплату да службовага акладу тым, хто карыстаецца беларускай мовай на службе, праводзіць заняткі з асабовым складам (памер даплаты павінен быць не менш за 20 працэнтаў ад службовага акладу).

Па-другое, ёсць патрэба ў накіраванні Міністэрствам абароны ў вайсковыя часткі, вайсковыя ўстановы адпаведнай дырэктывы, якой было б прадугледжана вывучэнне беларускай мовы прапаршчыкамі і курсантамі навучальных устаноў, выхаванцамі сувораўскага вучылішча.

Немэтазгодна, каб генералы і афіцэры ў часы гуманітарнай падрыхтоўкі вывучалі гісторыю Беларусі шляхам самастойнай працы. Камандзіры (начальнікі), іх намеснікі па выхаваўчай працы павінны ўзначаліць групы і праводзіць заняткі са сваімі падначаленымі афіцэрамі з выкарыстаннем найбольш дзейнай методыкі — чытанне лекцый і правядзенне семінараў.

Ёсць неабходнасць павялічыць тыраж падручніка па гісторыі Беларусі, а таксама друкаваць гістарычны матэрыял па вывучаемых тэмах у газеце «Во славу Родины».Неабходна паскорыць працэс выдання плакатаў-партрэтаў славутых ваяроў Беларусі (Давыд Гарадзенскі, Альгерд, Міндоўг, Вітаўт, Астрожскі, Сапега...), якія маглі б быць выкарастаны ў якасці сродкаў нагляднай агітацыі пры вывучэнні гісторыі Беларусі.

Неабходна з верасня 1993 года пачаць вывучэнне двухгадовага (каля 200 гадзін вучэбнага часу) курса гісторыі і культуры Беларусі, які б уключаў вывучэнне гісторыі дзяржавы, ваенную гісторыю і ваенную навуку, гісторыю культуры і рэлігійных канфесій на Беларусі ў ваенных навучальных установах. Вывучэнне гісторыі Беларусі павінна абавязкова ажыццяўляцца і ў сувораўскім вучылішчы.

Неабходна, каб адпаведныя камісіі Вярхоўнага Савета, грамадскія арганізацыі, Міністэрства абароны рэспублікі ў сувязі з супярэчлівай роллю ў гісторыі Беларусі генералісімуса А.Суворава выйшлі з прапановай у Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь аб перайменаванні сувораўскага вучылішча ў Беларускі вайсковы ліцэй.

У сувязі з праводзімай ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь атэстацыяй афіцэрскага складу выклікае пэўную заклапочанасць той факт, што не выконваецца ў вайсковых частках, ваенных установах патрабаванне адпаведнай дырэктывы Міністэрства абароны, дзе падкрэслена, што кожны генерал, афіцэр павінен у сваёй атэстацыі мець запіс, які б даваў станоўчы адказ на конт яго адданасці народу Беларусі. Калі вайсковец прыняў Ваенную прысягу на адданасць беларускаму народу і Рэспубліцы Беларусь, падкрэсліць гэта, як патрабуе Міністр абароны, у атэстацыі кожнага афіцэра проста неабходна.

У ваенных навучальных установах не вытрымліваюцца агульнадзяржаўныя нормы вучэбнага часу на выкладанне гуманітарных і сацыяльна-эканамічных дысцыплін (рашэнне Калегіі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 23.09.1992 N 8-п «Аб стане гуманітарнай падрыхтоўкі ў ВНУ рэспублікі і мерах па яе ўдасканаленні» прадугледжвае 25 працэнтаў вучэбнага часу выкарыстоўваць на гуманітарныя дысцыпліны ў тэхнічных ВНУ).

Было б мэтазгодна, каб каардынацыя вывучэння гуманітарных і сацыяльна-эканамічных дысцыплін у ваенных навучальных установах ажыццяўлялася ўпраўленнем выхаваўчай працы Міністэрства абароны праз асобую групу афіцэраў, якія б мелі практыку працы выкладчыка і вучоныя ступені.

**Уладзімір САВЯНОК,**
**палкоўнік,**
**намеснік старшыні БЗВ.**



*Вайскоўцы на Сходзе беларусаў блізкага замежжа.*

## ЗАЯВА

### *ВЫКАНАЎЧАЙ РАДЫ БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ВАЙСКОЎЦАЎ*

**На бягучы 1993 год прыпадаюць дзве сумныя гадавіны з гісторыі нашай Бацькаўшчыны: 200 год з другога падзелу Рэчы Паспалітай, калі большая частка беларускіх земляў трапіла ў склад Расійскай імперыі, і 130 год паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Гэтыя дзве падзеі, паміж якімі — 70 гадоў, неразрыўна знітаваныя паміж сабой. Паўстанне 1863 года было адказам на палітыку царызма, бо «уз'яднанне» з Расіяй 1793 года прынесла яшчэ большыя пакуты беларускаму народу, што трапіў з аднаго прыгнёту ў больш жорсткі прыгнёт, ён канчаткова страціў прыкметы дзяржаўнасці.**

**Паўстанцы Каліноўскага ўзялі ў рукі зброю і пайшлі на смяротны няроўны бой за праўду і волю, за права быць гаспадарамі на роднай зямлі, за тое, каб слова Божае гучала на матчынай мове. Люта закатаваны быў Кастусь, але жыццё сваё ён аддаў не дарма, бо ягоная «Мужыцкая праўда» запаліла агонь нацыянальнага адраджэння беларускага народа, яго жыццё і смерць сталі прыкладам самаадданага служэння народу. Славутыя словы Каліноўскага з-пад шыбеніцы аб тым, што не будзе шчасця на Беларусі, пакуль на ёй правяць чужынцы, сталі прарочымі.**

**Гісторыя вынесла свой прысуд катам і забойцам, паступова ставячы ўсё на сваё месцы. Зараз, калі наша Бацькаўшчына стала незалежнай, мы павінны памятаць, што за гэтую незалежнасць пакаленні нашых продкаў аддавалі сваё жыццё. Паколькі пагроза пакуль што існуе, трэба пільна берагчы нашу незалежнасць, бо пасля дзесяцігоддзяў дзікіх камуністычных эксперыментаў над людзьмі, якія прывялі да духоўнай дэградацыі грамадства, да страшэннай чарнобыльскай навалы, незалежнасць з'яўляецца галоўнай умовай самавыратавання беларускага народа ад пагрозы фізічнага вымірання.**

**Беларускае згуртаванне вайскоўцаў, як патрыятычны рух, прыкладзе ўсе намаганні, каб спрыяць захаванню незалежнасці нашай Бацькаўшчыны, міру і спакою на шматпакутнай зямлі Беларусі.**

*Ухвалена на пасяджэнні выканаўчай рады БЗВ 27 студзеня 1993 г.*

# ДЗЯРЖАЎНАЕ ДВУХМОЎЕ — СМЕРЦЬ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ

У неспакойны, цікавы, а для шмат каго і жахлівы час мы жывём. Разваліўся Саюз, восьвось разваліцца СНД, ускраіны былой імперыі палымнеюць пажарамі грамадзянскіх войнаў і міжнацыянальных канфліктаў. Валяцца ўрады і вытворчасць, растуць цэны і злачыннасць. І толькі ў некаторых месцах яшчэ адчуваецца нейкая стабільнасць. Адным з такіх месцаў з'яўляецца Беларусь. Не ўсё гладка і ў нас. І цэны растуць, і дэфіцыт, і вытворчасць падае, і ўрад не чуе голасу народа, але не льецца кроў, не ляскаюць стрэлы, не грукочуць танкі. І вось гэтае «але» шмат каму не падабаецца. Шмат каму вельмі хацелася б, каб беларус страляў у беларуса, каб заміж таго, каб капаць бульбу, накапалі акопаў.

І вось гэтыя зласліўцы паднялі крык за другую дзяржаўную мову на Беларусі. Бачыце, занядбаная, забітая беларуская мова, якая ўсяго некалькі гадоў як крыху акрыяла, гэтая мова замінае ім жыць. Гэтая мова не дае ім спаць, ад гэтай мовы яны губляюць апетыт. Гэтую мову яны маюць за найвялікшую пагрозу рускай мове, якая пануе ад Балтыкі да Ціхага акіяна. Яны крычаць супраць беларускай мовы ў ВНУ, а студэнты засвойваюць вышэйшую матэматыку па-беларуску лепш, чым па-руску; яны спадзяваліся на незадаволенасць войска, але войска таксама пераходзіць паціху на беларускую мову.

Дык хто ж яны такія, гэтыя віцебскія настаўнікі, гэтыя ветэраны немаведама чаго, гэтыя «славяне» з нейкага там «сабору»? Дзе яны выраслі, адкуль узяліся, няўжо Бог не даў ім розуму, каб змаглі ўсвядоміць, што, рыхтуючы крывавую бойню на Беларусі, яны рыхтуюць яе і для сваіх дзяцей і ўнукаў?

Працэс адраджэння беларускай нацыі набыў незваротны характар. Сёння ён ідзе павольна з прычыны супраціву вось такіх манкуртаў і з-за нашай уласнай пасіўнасці і ляноты, але ён ідзе і набірае тэмпы. Ён захоплівае ўсё новыя галіны гаспадаркі, адукацыі, культуры, усё новыя сферы жыцця. Яго, як нашу Пагоню, «не спыніць, не разбіць, не стрымаць». Беларускі народ у большасці сваёй, хто актыўна, хто пасіўна гэты працэс падтрымлівае. У нашым грамадстве выспелі магутныя сілы, якія вядуць яго ўсё далей і далей. Сёння да гэтых сіл далучылася Беларускае войска. Ва ўсіх частках пачалося вывучэнне беларускай мовы і гісторыі Беларусі, выхаванне афіцэраў і жаўнераў ставіцца на нацыянальна-патрыятычны грунт. Войска сказала «так» беларускай мове. Сёння ні афіцэры, ні жаўнеры не маюць сумненняў у неабходнасці беларусізацыі. І для многіх паварнуць назад ужо немагчыма, для многіх гэта стала сэнсам службы і жыцця наогул.

Дык няўжо нехта спадзяецца, што мы будзем маўчаць, калі варожыя сілы створаць рэальную пагрозу мове? Не, шаноўныя. Наш народ цярплівы. Нас высылалі ў Сібір — мы цярпелі. Нас нішчылі ў лагерах — мы цярпелі. Але кожныя 30 гадоў гэтаму цярпенню прыходзіў канец, кожныя 30 гадоў мы паўставалі за сваю волю і сваю будучыню. Цяжкія страты панёс беларускі народ у 30-ыя і 40-ыя гады. Прайшло амаль 50 гадоў, пакуль беларус зноў выпрастаў спіну, але выпрастаў, падняўся, зноў хоча «людзьмі звацца» і на роднай мове размаўляць.

Калі мы не адродзім сваю мову зараз, мы не адродзім яе ніколі, а без мовы не будзе народа, без мовы не будзе і нас. Калі нашым дэпутатам давядзецца галасаваць за другую дзяржаўную мову, яны павінны ведаць, што будуць галасаваць за смерць нацыі.

**Падпалкоўнік Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ, нашчадак Усяслава Грынькевіча, павешанага Мураўёвым за ўдзел у Студзеньскім паўстанні 1863 — 1864 гг.**



## ПРЫСЯГА

Перад Богам усявышнім і роднай зямлёю
Я табе прысягаю, радзімы мой край,
Прысягаю і сілай, і думкай сваёю,
І гарачай крывёю, і шляхам у рай.

Прысягаю палеткам і нівам жытнёвым,
І табе памяць прадзедаў, лёгшых у дол,
І сцюдзёным завеям, і кветкам вясновым,
І табе, роднай хаты амшаны вугол.

Прысягаю сягоння, і заўтра, і ўчора,
За ўсе дні, што пражыў і яшчэ пражыву,
Што нідзе і ніколі, ні ў шчасці, ні ў горы,
І ні ў сне паўсвядомым, і ні наяву

Ні на крок не сыду я са шляху змагання,
Ні на міг не схаваю мяча і пяра,
Не пачую ні модлаў, ні слоў апраўдання,
Аж да тога, пакуль не настане пара,

Што мая Беларусь перарве ўсе аковы,
І зазззяе спрадвечнаю славай сваёй,
І з кайданаў праклятых паробіць падковы
Для імклівых дрыгантаў Пагоні святой.

І не здолець мяне ані сілай, ні здрадай,
Ні агнём, ні мячом, ні лісліваій манояй,
Не купіць ні рублём, ні жытлом, ні пасадай,
Не зламаць ні ў любові, ні ў веры святой.

Я дайду, і аддам і жыццё, і каханне,
І зраблю нават тое, што нельга зрабіць,
Хай памру без надзей на прахоў адпушчанне,
Беларусь і па смерці я буду любіць.

**Станіслаў СУДНІК.**

# ЭФЕКТ ЛАКМУСАВАЙ ПАПЕРКІ...

Хто служыў у Афганістане,то ведае,што там вельмі хутка і выразна, асабліва ў баі, праяўлялася сутнасць чалавека, выяўлялася, хто ёсць хто. Мой сябар называў гэта эфектам лакмусавай паперкі.

Успомнілася ж гэта пад час прыняцця прысягі ў вучэбным цэнтры (Печы) 31 снежня 1992 г. Ці стала яна той лакмусавай паперкай, своеасаблівым пропускам па Узброеныя Сілы краіны для тых , хто сапраўды гатовы быць «верным і самаадданым абаронцам свайго народу»? Адназначнага адказу «так» не атрымліваецца.

Для часткі афіцэраў прыняцце прысягі стала доўгачаканай і хвалюючай падзеяй. Гэта тыя, для каго Беларусь — родная маці, хто даўно ўжо гатоў быў прысягнуць на вернасць Радзіме. Гэта тыя, што не высоўвалі ўмоў ураду і Вярхоўнаму Савету: спачатку прызначце нам аклады і пенсіі, а мы паглядзім, прысягаць Беларусі ці не.

Але былі і другія. Тыя, што мэтанакіравана і настойліва высоўвалі вышэйзгаданыя ўмовы. Тыя, для каго непрымальны наша незалежнасць, культура, мова, для каго добры беларус той, хто гаворыць · (хоць і з невынішчальным акцэнтам) «на языке», той, хто моўчкі слухае разважанні аб тым, што беларусы «подохнут» без Расіі.

Некаторыя з гэтых афіцэраў проста ў час прыняцця прысягі непаважна выказваліся аб гэтым святым для кожнага сумленнага грамадзяніна Беларусі акце, заяўлялі, што сёння свята толькі Новага года і ніякае больш. Былі і такія, што не чыталі тэксту прысягі, а проста ставілі подпіс. Былі і трэція — тутэйшая армейская эліта. Гэта тыя, што восенню 1991 г. распачалі ў вучэбным цэнтры цкаванне афіцэраў-патрыётаў. Тыя, што ў студзені 1992 г. арганізоўвалі сходы ў падтрымку «непобедимой и легендарной», паўгода зацята выступалі супраць беларускай прысягі, а потым «ничтоже сумняшеся», аб адным дні змянілі сваю думку і свае погляды на адваротныя.

Гэтыя, у адрозненне ад афіцэраў другой групы, ужо перабудаваліся, ужо збудавалі свае асабнякі, ужо засвоілі новы лексікон. Праўда, ім не верацца ні першыя, ні другія. У вучэбным цэнтры пішуць рапарты на звальненне маладыя афіцэры, у тым ліку і беларусы, бо — няўтульна адчуваюць сябе ў асяродку, дзе крадуць і хлусяць.

Прысягу прынялі ўсе — і першыя, і другія, і трэція. Але эфекту лакмусавай паперкі не атрымалася. Тыя, хто не захацеў паехаць бараніць сваю зямлю, далі клятву, што будуць бараніць чужую. Але ж ці можна было чакаць іншага ад людзей, якія выхоўваліся на песнях, накшталт «мой адрес не дом и не улица...»? Галоўным быў сацыяльны чыннік — кватэра, дабрабыт, стабільная краіна... Ні па сваіх перакананнях, ні псіхалагічна многія не падрыхтаваны збройна бараніць Беларусь. І віны іх тут не так ужо і шмат. Калі іх і можна за што ўпікнуць, то хіба толькі за адкрыта антыдзяржаўныя выказванні. Пасля прыняцця прысягі гэта проста несумленна, не па-афіцэрску.

Ды ўсё ж не варта драматызаваць сітуацыю. Хоць і павольна, але павялічваецца ў войску працэнт афіцэраў — ураджэнцаў Беларусі. Мяркую, што праз колькі часу і для іншых афіцэраў Радзіма іх дзяцей стане Радзімаю, а паняцці аб гонары і годнасці афіцэра, вернасці прысязе не пераўтворацца ў час выпрабаванняў у сваю супрацьлегласць.

Канкрэтныя шляхі павышэння надзейнасці беларускага войска прапанаваны ў звароце Першага Сходу беларусаў блізкага замежжа да парламента і урада Рэспублікі Беларусь. Адзін з пунктаў звароту, прапанаваны Беларускім Згуртаваннем Вайскоўцаў, гучыць так:

— лічыць мэтазгодным правядзенне пераатэстацыі кіруючых асоб Узброеных Сіл РБ камісіяй Вярхоўнага Савета, прадстаўнікоў Кантрольнай палаты і грамадскасці. Вынікам пераатэстацыі павінна быць высновa аб удзеле ці не ўдзеле тых ці іншых асоб ў злоўжываннях, аб ступені іх адданасці справе абароны незалежнасці беларускай дзяржавы.

І гэта не заклік да «палявання на ведзьмаў». Такое патрабаванне — норма ў любой дзяржаве. Беларускі народ павінен быць упэўнены ў адданасці і сумленнасці вышэйшага камандавання сваіх узброеных сіл.

**М.ВАРАНЕЦ.**

# ХРОНІКА БЗВ

***20 лютага ў Менску адбылося пасяджэнне Каардынацыйнай Рады Беларускага Згуртавання Вайскоўцаў, якая з'яўляецца кіруючым органам гэтага непалітычнага патрыятычнага руху паміж яго з'ездамі. Чытачу прапануецца агляд падзей, што адбыліся ў БЗВ і каля яго за час між Радамі.***

ЧЭРВЕНЬ пачаўся з сустрэчы Выканаўчай Рады БЗВ з прадстаўнікамі Міністэрства абароны на ўзроўні генерал-маёра Ісайчанкава. Выступленні дэпутата А.Трусава, старшыні БЗВ М.Статкевіча і прадстаўнікоў МА паказалі, што падыходы БЗВ і міністэрства да праблем войска амаль супадаюць, акрамя пытання прысягі. Тым не менш Ісайчанкаў падкрэсліў: «Принятие присяги сегодня — глупость, но если завтра будет приказ — я присягну в числе первых.» Наступным жа днём палкоўнік У.Чэкаў заявіў карэспандэнту «Во славу Родины», што ніякай сустрэчы не было і вынікаў няма (!?) Крыху забягаючы ўперад, трэба адзначыць, што зараз генерал Ісайчанкаў служыць у Расеі і робіць там заявы, што мусіў пакінуць Беларусь «з-за дыскрымінацыі па нацыянальных прыкметах» і зусім не тлумачыць, на каго ён пакінуў леціпчымаёнткі на Беларусі, з-за якіх ім займалася Кантрольная палата.

ЛІПЕНЬ. Дэлегацыю Выканаўчай Рады прыняў старшыня Вярхоўнага Савета С.Шушкевіч. Гаворка ішла аб забеспячэнні абароны узброеных сіл, аб стварэнні фонду гістарычна-патрыятычнага выхавання, аб неабходнасці адпору спробам дэстабілізацыі Беларускага войска звонку. С.Шушкевіч паведаміў, што сочыць за справамі БЗВ і па многіх пытаннях падзяляе яго погляды.

Пасля выступлення аб неабходнасці прыняцця прысягі на вернасць беларускаму народу на мітынгу з нагоды гадавіны незалежнасці Беларусі сябра выканаўчай рады У.Барадач меў «гаворку» з міністрам абароны, у часе якой пачуў ад субяседніка, што «...БЗВ магчыма забараніць, і, увогуле, калі мне даверана войска, не трэба мне падказваць!»

ЖНІВЕНЬ быў напоўнены падрыхтоўкай да святкавання «Дня вайсковай славы» 8 верасня. Расце ўціск на БЗВ у прэсе, ідуць абвінавачанні ў палітычнай дзейнасці, у кампраментацыі Узброеных Сіл, абразе генералаў і афіцэраў. Афіцыйнае абвінавачанне БЗВ у антыдзяржаўнай дзейнасці, папярэджанне Міністра абароны аб звальненні тых, хто адважыцца прыняць прысягу 8 верасня, скарга ў Мінюст, «вайна» у прэсе. Спроба генерала-маёра Мажукіна звольніць падпалкоўніка А.Крываротa з дапамогай афіцэрскага сходу «за членство в БЗВ».

ВЕРАСЕНЬ. 8 верасня ўпершыню праведзена Свята Беларускага войска на пляцы Незалежнасці з нагоды гадавіны славутай перамогі Кастуся Астрожскага над царом маскоўскім у 1514 годзе пад Воршай. Прысяга народу Беларусі з удзелам народных дэпутатаў, дзеячоў навукі, культуры, падтрымка акцыі ў Гародні, Воршы, Берасці, іншых месцах... Па «розных» прычынах з 14 кадравых афіцэраў-актывістаў БЗВ, што прысягнулі 8 верасня, да чарговай Рады засталося на службе толькі 5!

Актыўны ўдзел БЗВ у Канферэнцыі БНФ па вайсковых пытаннях, падчас якой абвешчана аб стварэнні Асацыяцыі вайскоўцаў запасу (Гародня, Менск), аб падрыхтоўцы да стварэння Камітэта сацыяльнай абароны вайскоўцаў тэрміновай службы.

КАСТРЫЧНІК — праверка Мінюстам Беларусі дзейнасці БЗВ па дзвюх скаргах Міністэрства абароны аб парушэннях статутнай дзейнасці (Берасце, Печы). Адшукаць не існуючае цяжка, таму пагадзіліся на дробных заўвагах і прапановах. Тым не менш знайшоўся спосаб за два дні беспадстаўна звольніць з войска намесніка старшыні, палкоўніка У.Савянка.

Адбылася сустрэча ВР БЗВ і ВР партыі «Народная Згода», у выніку якой прынята сумесная заява «Аб дзяржаўнасці беларускай мовы».

ЛІСТАПАД — упершыню афіцыйна святкуючы «Дзяды», БЗВ разам з дэмакратычнымі партыямі і рухамі ўшанавала памяць загінуўшых за волю і незалежнасць змагароў у Косаве супраць польскай акупацыі.

Створаны камітэт «Вяртанне» (яго ўзначаліла дэпутат ВС Г.Сямдзянава), які займаецца пытаннямі пераводу вайскоўцаў на Беларусь і з Беларусі.

Удзел у адзначэнні 72-й гадавіны Слуцкага збройнага чыну ў Семежаве і Слуцку.

СНЕЖАНЬ — «ціхая вайна» уціску на БЗВ прымае адкрытыя формы. Падчас сустрэчы з афіцэрамі інжынерный вайсковай вучэльні міністр абароны ва ўльтыматыўнай форме прапанаваў падпалкоўнікам М.Статкевічу, М.Бірукову і А.Куляшу альбо адмовіцца ад БЗВ, альбо ... скласці рапарт аб звальненні з войска. Падпалкоўніку С.Судніку, які нарэшце пераведзены з Казахстана, дэпутат-палкоўнік В.Паўлаў паведаміў: «...Вам у нашай Арміі места нямa!» ! толькі ўмяшальніцтва Саўміна дазволіла знайсці пасаду гэтаму афіцэру, але падалей ад Менска., у Гарадзенскай вобласці.

СТУДЗЕНЬ — на чарговай Кансультацыйнай нарадзе патрыятычна-дэмакратычных сілаў старшыня БЗВ М.Статкевіч выступіў з ініцыятывай стварэння «Славянскага дэмакратычнага форуму» з мэтамі ўсталявання цывілізаваных адносін між славянскімі краінамі свету, падухілення канфліктаў паміж імі.

Працягваецца стварэнне суполак БЗВ з ліку вайскоўцаў запасу і ўсіх, хто падзяляе мэты арганізацыі.

Наконт адносін з афіцыйнымі коламі вайсковага ведамства сваю думку ВР БЗВ выказала ў «Советской Белоруссии» яшчэ 26 жніўня 1992 г. у артыкуле «БЗВ не претендует на то, чтобы заменить Министерство Обороны». Час паказвае, што хоць і спазняючыся, але МА робіць (праўда, не заўсёды добра) тое, аб неабходнасці чаго раней казалі сябры БЗВ. Спадары з вуліцы Камуністычнай чамусьці ніяк не зразумеюць, што БЗВ — гэта не падпарадкаванне Узброеных Сіл РБ, а грамадскі непалітычны патрыятычны рух. А спроба ваяваць з патрыятычным рухам, ды яшчэ не вельмі разумнымі сродкамі, не дадаюць Міністэрству абароны аўтарытэту.

**Алесь СТАНКЕВІЧ, маёр запасу, сакратар БЗВ.**

**З ДАЛЁКІХ І БЛІЗКІХ ДАРОГ**

# Спатканне са старажытнай Эладай

## Падарожныя нататкі опернага рэжысёра

**Летась у творчым жыцці ДАВТа Беларусі адбылася выбітная падзея: оперная трупа ўпершыню выехала на Міжнародны фестываль мастацтваў у Грэцыю — са спектаклем «Медыум» Д. Меноці. Рэжысёр — С. Штэйн, пастаноўшчык гэтай оперы, вярнуўшыся з вандроўкі, напісаў для «ЛіМа» пра ўражанні амаль дзесяцідзённага творчага падарожжа. Сёння мы прапануем гэтыя нататкі ўвазе чытачоў.**

Вось як гэта было. 31 ліпеня а 9-й гадзіне мы рушылі. Мы — гэта творчы кіраўнік паездкі і дырыжор «Медыума» М. Калядка, адказны за паездку нам. дырэктара тэатра Я. Піляеў, артысты В. Цішына (Флора), Т. Кучынская (Моніка), С. Гаўрыленка (Тобі), В. Садоўская, І. Атлыгіна, А. Кеда (Наведнікі), 15 чалавек артыстаў аркестра і я, грэшны.

Наш ікарус «Беларусь» праехаў Украіну, усю Румынію з поўначы — праз Бухарэст — на поўдзень, Балгарыю і праз трое сутак патрапіў у Грэцыю. Падарожжа не з лёгкіх: невыносная гарачыня, стамляюча бяссонныя ночы ў аўтобусе, раздражняльныя мытні, асабліва ў Румыніі, дзе нас бязглузда *трымалі па 5—6 гадзін...* Нам, кажуць, пашанцавала. Мо і так. Як успомніш трохкіламетровую чаргу вялізных рэфрэжэратараў, што простойваюць па 7—9 сутак! А там жа, відаць,— штосьці вельмі патрэбнае за рысай мяжы, і дзесьці змесціва іх пільна чакаюць.

Аднак тыя трое сутак мы не бывалі ў роспачы. Узнік асаблівы мікраклімат — з гумарам, гранічнай спагаднасцю адно да аднаго, сняданкамі на траве і г. д. Дый такімі дэталямі, пра якія кажуць «дробязь, але прыемна»: у румынскай вёсцы сялянка пачаставала нашу Тацццяну Траццяк (канцэртмайстра-піяністку) свежай, яшчэ гарачай ляпёшкай. А ў Сафіі некалькі чалавек, спрачаючыся адно з адным, намагаліся патлумачыць нашым шафёрам, як лепш праехаць да цэнтра горада, і пажылы інтэлігент, які «пераМог» усіх, сеў у аўтобус ды асабіста паказваў дарогу...

Не абышлося без паняццяў, пра якія раней толькі чуў: «мафія», «рэкет», ды яны да сутнасці паездкі дачынення не мелі...

2 жніўня, 20.00 — Грэцыя. На мытні доўга не маглі зразумець, куды і навошта мы едзем, не ставала нейкай паперы, фармулёўкі. Трэба аддаць належнае нашаму М. Калядку, які не толькі забяспечыў высокі ўзровень музычнага паказу, але і праявіў немалыя арганізатарскія *здольнасці і з дапамогаю* англійскіх слоў, а то і цэлых фраз, урэшце цудоўна паразумеўся з таможнікамі...

Едзем уздоўж Іанічнага мора *сярод прыгажуняў-гор.* Горы ды мора быццам сапернічаюць паміж сабою, ствараючы адзіны цуд прыроды. Глыбокая ноч; агні заправак, якія клічуць падарожных не толькі «падсілкавацца» бензінам, але і пасядзець у бары, адпачыць. (Успамінаюцца Чарнаўцы, дзе мы 2 гадзіны змарнавалі, аб'ездзіўшы запраўчныя станцыі,— *усё глуха, пуста, чорна, толькі* сабачы брэх ды наша гуканне...).

Мы не спазняемся: 3 жніўня, раніца — на другім беразе го*рад Патра,* дзе адбываецца фестываль. Паром. Агромністае, трохпавярховае збудаванне — з барам, туалетам, прытулак для соцень легкавікоў, аўтобусаў. І ніякіх чэргаў. Пагрузка ідзе спора, гожа... Атэль — на беразе мора. Штораніцы і штоноч можна любавацца несмяротнай прыгажосцю стыхіі; гарамі, што быццам вырастаюць з марскога бяздоння і мяняюць сваё аблічча, колер, танальнасць; рухам бялюткіх акеанскіх лайнераў... Аднак трэба пагаліцца: за трое сутак прабілася барада, на маё здзіўленне, амаль сівая.

Да сцэнічнай пляцоўкі, дзе ўвечары, пасля 21-й гадзіны,— першая і адзіная рэпетыцыя «Медыума», едзем разам з М. Калядкам. Вязе нас на сваёй машыне музычны кіраўнік фестывалю дырыжор Дзімітрыс Баціс. Ён грэк, але вучыўся ў Маскоўскай кансерваторыі ў Ю. Сіманава, а потым у піцерскай аспірантуры — у Ю. Цемірканава. Ён няблага гаворыць па-руску і вельмі дапамог нам. Пазней я даведаўся, што ён бліскучы арганізатар, руплівец. І вельмі абаяльны чалавек, жанаты дарэчы, на цудоўнай піяністцы з Ташкента, імя яе Гуля, у іх ужо трое і ўсе — хлапчукі.

Дзімітрыс прывёз нас да вялікай крэпасці, дзе звычайна адбываюцца міжнародныя фестывалі. Крэпасць абсталявана *пад тэатр на 2,5 тыс. гледачоў,* тут усё — магутнае, уражлівае, тут дух старажытнай Элады. Тут фестывалі доўжацца штогод 2 месяцы. Але сёння гэты тэатр рамантуецца, а наша пляцоўка — т. зв. малая крэпасць, дзе збудаваны амфітэатр на 500 чалавек, і фестываль тут доўжыцца толькі месяц. (Дзякуй Богу, падумаў я, *навошта нам гаргарына на 2500,* калі «Медыум» — опера камерная і яе кантакт з публікай — палова поспеху).

Днём я быў заняты звычай*най падрыхтоўчай працай.* З самага пачатку мяне абступілі людзі з блакнотамі, надзвычай зычлівыя і збянтэжаныя ад таго, што не надта разумеюць мяне (я ж куды больш бянтэжыўся ад няведання ні англійскай, ні французскай). З дапамогай жэстаў і мімікі (а яшчэ калі побач Баціс) мы разумелі адно аднаго. «Патрэбна падстаўка пад мадонну»,— кажу.— «Якая?» — Я паказваю на ўзроўні грудзей.— «Колер?» — Паказваю на сваю кепку.— «Святло якога колеру?» — Паказваю на ягоныя зялёныя акуляры. І г. д. Калі дайшло да стартавага пісталета, які патрэбен у спектаклі, гаспадары доўга круцілі галовамі, ды ўрэшце праз паўгадзіны прынеслі каробку з сапраўдным пісталетам, з якога можна пускаць ракету і страляць газам. «Колькі трэба куль?» — Паказваю на пальцах «5». Даюць каробку і бяруць з мяне распіску, што атрымаў зброю: гэта цяпер мой сувенір. Увечары аддаю пісталет Олі Цішынай і дазваляю толькі адзін стрэл для рэпетыцыі...

А перад рэпетыцыяй разумніца Тамара Кучынская прапануе апошнія, завяршальныя ў спектаклі рэплікі: «Памажыце, памажыце!», звернутыя ў залу, вымавіць па-грэчаску. Адразу ацаніўшы гэтую ініцыятыву, я потым пераканаўся, што гэтыя рэплікі яе гераіні сталіся *не проста завяршэннем* сюжэта, а і заклікам да міласэрнасці, дабрыні, звернутым да канкрэтных людзей на зразумелай для іх мове.

У 1 аддзяленні «Салісты Патры», камерны аркестр пад кіраўніцтвам Д. Баціса, пры ўдзеле нашых музыкантаў, выконвалі творы Л. Бетховена: «Эгмант», 2-гі фартэпіянны канцэрт, Раманс для скрыпкі з аркестрам. У антракце мы ўстанавілі сваё афармленне (выязны варыянт), уключылі святло, і толькі тут я зразумеў — які ж цуд атуляе наш спектакль. Цяжка перадаць словамі: уявіце пляцоўку, за якой — квітнеючы сад, быццам ружы растуць на дрэвах (кветкі гэтыя называюцца дафніі), дрэвы падсвечаныя знізу, і здаецца, што не растуць з зямлі, а лунаюць у паветры. А ўдалечыні ззаду агромністая сцяна крэпасці, на якой зрэдчас мільгаюць цені акцёраў. У нашым спектаклі, асабліва ў эпізодзе медытацыі, з дапамогай пастановачнага святла можна было дамагчыся нейкай асаблівай, пазарэальнай, трывожнай і таямнічай атмасферы...

Пасля рэпетыцыі — вячэра, дзе за келіхам добрага піва Дзімітрыс распавёў пра свой горад. У Патры ўсяго 250 тыс. *насельнікаў, аднак* ёсць універсітэт, інстытуты, музычнае вучылішча, драмтэатр дзяржаўны і прыватны тэатр. Ёсць самадзейныя тэатры, якія субсідзіруюцца муніцыпалітэтам. Оперны — толькі ў Афінах. Міжнародныя фестывалі адбываюцца штогод у Афінах, Патры ды на востраве Крыт. Уражвае разнастайнасць і рознастылёвасць: джаз і электронная музыка, аркестр Вялікага тэатра з Масквы і Капэла Будапешта, Варшаўскі аркестр з дырыжорам Я. Менухіным, і Кітайская опера, *Лонданскі* сімфанічны і салісты з Аргенціны. У нашай праграме быў аркестр тэлебачання і радыё Сафіі, а на пару дзён раней маскоўская Таганка іграла «Федру» М. Цвятаевай... Фінансуе фестываль муніцыпалітэт Патры.

4 жніўня. Трэба ж прайсці па горадзе. Кажуць — усё жахліва дарагое, дый грошай няма пакуль зусім. Надта горача. Людзі падыходзяць, пытаюцца пра штось — прыемна, значыць, падобны да грэка... У магазінах усё ёсць, чэргаў ніякіх, а ўваходзіць не *трэба, сорамна.* Уражанне, што ўвесь горад на вуліцы: сядзяць, кураць, чытаюць, п'юць, дрэмлюць і г. д. У галаве дурнотнае пытанне: а хто ж працуе?

Ля крамы, ужо на вуліцах — памідоры, бананы, персікі, ківі, агуркі, вінаград, перац, кавуны, дыні, арэшкі розных гатункаў ды яшчэ штось, для мяне невядомае. Кавалачак жыцця «з кіно»...

Горача. У атэлі сауна (платная) і басейн (бясплатны). Выбіраю апошняе... Крыху адпачыў — і час збірацца. 21.30 — пачатак...

Ой, як цікава: шмат людзей гаворыць па-руску. Тут і наша (колішняя наша...) цымбалістка Ангеліна Ткачова, якая з мужам спецыяльна прыехала на канцэрт з Афін. Публіка розная: і пажылыя, і моладзь. Чытаюць праграмку з кароткім зместам «Медыума», які ў Грэцыі не гучаў ніколі. Падкладаюць мяккія паралонавыя падушачкі. Поўная зала, хоць білет каштуе 10 долараў (для студэнтаў скідка).

«Медыум» пачынаецца а 23-й гадзіне. Спектакль, мною пастаўлены, бачаны дзесяткі разоў, але... Штось усялілася ў акцёраў, такой праўдзівай ансамблевасці я не памятаю, такога трагізму ў Цішынай (хаця яна заўсёды выдатная) і разам з тым такога неардынарнага і тонкага псіхалагізму ў яе не было раней. Уражлівы баланс аркестра і сцэны. 55 хвілін непарушнай цішыні, увагі, засяроджанасці залы і... Авацыі ў канцы. Я быццам бы ўпершыню быў на спектаклі. І гэты сад з чырвонымі дафніямі, гэта квітнеючае жыццё — мудрае,

**АДРАДЖЭННЕ**

# «З-НАД НЁМАНА, ДЗВІНЫ, ДНЯПРА...»

## Падрыхтаваны унікальны нотны зборнік

Канцэртныя праграмы, што выконваліся ў межах фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы», адышлі ў мінулае. Яны не паўтараюцца і наўрад ці паўтарацца, хіба што ва ўдзячнай памяці наведнікаў філармнічных залаў — і хутчэй не *цалкам, а нейкім фрагментам,* асобнай мелодыяй, любімым выканаўцам... Надзейнага ж узнаўлення тых музычных з'явішч і дзействаў можна было б дасягнуць праз аўдыё-відэазапісы, але яны рабіліся насцярожана-скупа, яшчэ раз пацвярджаючы наш страх перад самаспазнаннем і заадно выяўляючы, мякка кажучы, глухаватасць *ці адвучанасць чуць гучанне* «тутэйшай» чалавечай душы ў непарыўнасці часу.

Каб зменшыць небяспеку новых парушэнняў у гэтым гучанні, так цяжка здабытым у стагоддзях, каб зафіксаваць яго, не даць яму зноў бяспамятна аціхнуць, паўстала патрэба ў падрыхтоўцы зборніка беларускіх вакальных твораў XVII—XVIII стагоддзяў. Складальнікі Вольга Дадзіёмава і Віктар Скорабагатаў назвалі яго (пакуль, відаць, умоўна) «З-над Нёмана, Дзвіны, Дняпра...». Карпатлівую і тонкую працу музычнага рэдагавання ўсіх уключаных у яго твораў выканала Ганна Каржанеўская.

Зборнік «З-над Нёмана, Дзвіны, Дняпра...» — гэта перазовы імгненняў, дыялог мінулага і сучаснасці. Праз сваю адбытасць мінулае павернута ў сённяшні дзень Беларусі ўстойлівай загадкавасцю. Сучаснасць жа — як вынік неўсвядомленага ёю пасрэдніцтва — намацвае кантакты з днём учарашнім цераз ідэалізуючыя ўяўленні. І калі ў гэтым дыялогу загадка афармляецца ў пытанне, то ўяўленне, якое здольна пазначыць абрысы загадкі, становіцца ўжо і спробаю разгадкі, і першым адказам на пытанне. Наступныя адказы могуць уяскравіць абрысы загадкі і разам з тым падвесці да новых пытанняў, да новага ўзроўню асэнсавання мінуласці, адкрыўшы шлях да нашага самапазнання і самаўсведамлення ў гісторыі чалавецтва.

Поступ мастацкага і гістарычна-культурнага самаспазнання беларусаў творча ўгадваецца ў зборніку «З-над Нёмана, Дзвіны, Дняпра...» рознымі формамі вяртання і засваення спадчыны, залежнымі ў рэшце рэшт ад захаванасці матэрыялаў — і нотных, і тэкставых.

У аперэтцы Рафаіла Вардоцкага «Апалон-заканадаўца, або Рэфармаваны Парнас», а дакладней, у яе лібрэта, адным з аўтараў якога быў Цяцерскі, за два стагоддзі сцэнічнага маўчання сям-там утварыліся лакуны. Іх запаўненне магло адбыцца не інакш, як праз інтуітыўна-лагічнае пранікненне ў сюжэт і псіхалогію твора, г. зн. *перакладчык, узнаўляючы польскамоўны* тэкст па-беларуску, прыпадабняўся ў чымсьці да рэстаўратара. Таму моўная аснова аперэткі «Апалон-заканадаўца...» не толькі перакладзена, але і рэканструявана.

Рэканструяваны таксама некалькі мясцін у перакладах песенных фрагментаў Міхала Казіміра Агінскага «Пра неамбітнае сэрца», «Неспадзяваны добры дзень» і інш. Лакуны тут узніклі, відаць, на самым пачатку — матыў зафіксаваны, а тэкст, здараецца, не мае завершанасці, часта з выпадковым або нават незразумелым ці недапісаным словам — з надзеяй аўтара на пазнейшую дапрацоўку. Тэксты песнятвораў Агінскага, якія ўвайшлі ў *рукапісны слонімскі* сшытак, спалучыўшыся ў асобны цыкл, не клаліся на музыку, а пісаліся пад яе, падбіраліся-напяваліся, калі мелодыя ўжо існавала. Першаснасць музыкі ў творчым працэсе зрабіла Міхала Казіміра Агінскага амаль незалежным ад літаратурных традыцый свайго часу ў напісанні песенных фрагментаў гэтага цыкла. Ва ўсякім разе ні пад *якія жанравыя каноны* класіцызму яны не былі падведзены і праз гэта выбаўляліся з-пад улады рэгламентацыі мастацтва, дазіравання формаў выказвання пачуццяў.

У адпаведнасці з класіцыстычнымі нормамі, але з незалежных грамадзянскіх пазіцый было напісана Мацеем Радзівілам лібрэта да оперы Яна Давіда Голанда «Агатка, або Прыезд пана». У ім, калі мець яго за вершаваны драматургічны твор, звернута ўвага на тыя прыватныя маральна-этычныя стасункі ў мясцовым грамадстве, якія, з аднаго боку, былі спароджаны пачварнасцю прыгонніцкай сістэмы, а з другога — супрацьстаялі ёй сваёю чалавечнасцю, і якія пазней, у сярэдзіне XIX стагоддзя, зоймуць бадай ці не цэнтральнае месца ў беларускай літаратуры, найперш у творчасці Вінцэнта Дуніна - Марцінкевіча. Польская мова персанажаў «Агаткі» не вызначаецца залітаратуранай рафінаванасцю, яна жывая і характарыстычная і ня-

# ГІСТАРЫЧНАЯ ПРАЎДА ВЫМАГАЕ...

## З нагоды «юбілею» Нясвіжа

Нясвіжцы рыхтуюцца адзначыць 770-я ўгодкі свайго горада. Упамінанне Нясвіжа ў *летапісе пад 1223 годам звязана* з іменем Юрыя Нясвіжскага, які загінуў разам з іншымі ўсходнеславянскімі князямі ў бітве з татарамі на рацэ Калка. Узаемадачыненне прозвішча нябожчыка і назвы горада, здавалася б, не выклікае сумненняў. Дата першага ўпамінання Нясвіжа і суаднясенне яго з князем Юрыем стала, бадай, аксіёмай, патрапіўшы ў многія энцыклапедыі, гістарычныя манаграфіі *і артыкулы, у публікацыі* папулярнага характару па мінуўшчыне горада. З выкарыстаннем вядомых матэрыялаў па гісторыі Нясвіжа і рыхтаваў, падобна, свой артыкул «Калі дом пустуе...» народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, старшыня Нясвіжскага райсавета Уладзімір Дражын («Народная газета», 1992, 17 снежня). Публікацыя надзвычай актуальная, але, на жаль, у аснову асобных высноў яе пакладзена пэўная гістарычная недакладнасць.

Яшчэ Я. Якубоўскі, а за ім акадэмік М. Ціхаміраў усумніліся ў правільнасці суаднясення князя «Несвежьскага», як запісана ў летапісе, з Нясвіжам на Беларусі. Даследчыкі меркавалі, што ён валодаў горадам Несвіжскім, які знаходзіўся, у адным выпадку, у басейне верхняй Волгі і Акі, а ў другім — паміж Суздалем і Шуяй. М. Балінскі, Т. Ліпінскі і У. Сыракомля звязвалі гісторыю Нясвіжа з 1388 годам, калі Рыгор і Іван Нясвіжскія, *нашчадкі* Карыбута-Дзмітрыя Альгердавіча, прысягалі каралеўскай пары—Ягайлу і Ядвізе. Але такое меркаванне абвяргаецца грунтоўным даследаваннем шляхецкіх радаводаў, падрыхтаваным Ю. Вольфам і А. Банецкім, якія ўказваюць на існаванне князёў Нясвіцкіх (у некаторых крыніцах — Нясвічскіх), нашчадкаў князёў Турава-Пінскіх, з родавым цэнтрам Нясвіч над ракой Палянкай *у Луцкім павеце на Валыні*. Прадстаўнікі гэтага роду ў адносінах да Карыбута Альгердавіча знаходзіліся ў васальнай залежнасці.

Пацвярджэннем прыведзенага меркавання адносна ўладанняў князёў Нясвіцкіх з'яўляюцца звесткі з кнігі М. Любаўскага «Абласное дзяленне і мясцовае ўпраўленне Літоўска-Рускай дзяржавы на час выдання першага Літоўскага статута» (М., 1892). На карце Нясвіч пазначаны як важнейшы княскі або панскі двор пры гарадах або сёлах. Імёны розных прадстаўнікоў князёў Нясвічскіх неаднаразова трапляюцца ў дакументах XV стагоддзя, але якіх-небудзь іх сувязяў з Нясвіжам на Беларусі не прасочваецца.

Апісанне ў летапісе прычын паходу князёў з поўдня ўсходнеславянскай тэрыторыі на Калку яшчэ больш пераконвае ў існаванні князёў Нясвіцкіх. «Котяк», як паведамляе пісьмовая крыніца, прыйшоў з паклонам з іншымі князямі палавецкімі да свайго зяця князя Мсціслава Галіцкага і іншых князёў «Рускых» з просьбаю сумесна выступіць супраць татараў. У шэрагу загінуўшых у далёкім стэпе быў і князь Юрый «Шумьскі». У згаданай кнізе М. Любаўскага прыводзяцца звесткі пра Шумск, непадалёк ад якога і знаходзіўся Нясвіч. Магчыма, не памыляўся Я. Якубоўскі, калі гаварыў пра верагодную васальную залежнасць Юрыя Нясвіцкага ад князя Шумскага, які, у сваю чаргу, быў васалам князя Мсціслава Галіцкага. Нельга не звярнуць увагу, што, апроч гіпатэтычнага князя з не менш гіпатэтычнага Нясвіжа, ніхто з беларускіх земляў у паход на Калку не выпраўляўся. Тым больш дзіўна, што там мог апынуцца князь ледзьве не з цэнтра цяперашняй Беларусі.

*Зразумела, што звесткі пісьмовых* крыніц можна было б паставіць пад сумненне. Вядомы выпадкі, калі летапісцы або памыляліся пры апісанні пэўных падзей ці гістарычных асоб, або і ўвогуле падыходзілі да трактоўкі фактаў тэндэнцыйна. Але ж пісаная гісторыя Нясвіжа добра ілюструецца матэрыялам археалагічных раскопак, якія ў сярэдзіне 80-х гадоў праводзіў у горадзе аўтар гэтых радкоў. *Пры даследаваннях* удалося ўдакладніць некаторыя моманты нясвіжскай гістарычнай тапанімікі. У прыватнасці, фрагмент насыпнога вала каля кляштара бенедыктынак, на якім устаноўлены ахоўны знак з надпісам «Гарадзішча. Ахоўваецца дзяржавай», уяўляе сабой рэшткі абарончай бастыённай сістэмы горада, насыпанай у канцы XVI — пачатку XVII стагоддзя. Папярэднія даследчыкі, *якія вывучалі помнік, відаць, толькі візуальна*, не заўважылі фрагментаў падобнага насыпу, што захаваліся таксама ў накірунку да Слуцкай брамы. Менавіта пра такі яго характар сведчаць і картаграфічныя матэрыялы Нясвіжа. У гэтым месцы быў узведзены адзін з бастыёнаў абарончай сістэмы, які, зыходзячы з характару абрысаў, і сёння не пакідае сумнення пра сваё першапачатковае функцыянальнае прызначэнне.

Развіццё Нясвіжа як горада па матэрыялах археалагічных даследаванняў прасочваецца з канца XVI стагоддзя, калі яму было нададзена Магдэбургскае права. У немалой ступені пераўтварэнню сваёй рэзідэнцыі ў развітое гарадское паселішча спрыяў тагачасны ўладар Нясвіжскай ардынацыі князь Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка, які меў грунтоўны досвед у пытаннях еўрапейскай культуры і мастацтва. Трэба памятаць, што адбывалася гэта ў перыяд панавання на Беларусі Рэнесансу, які стаў штуршком для развіцця не толькі архітэктуры і горадабудаўнічай культуры, але і шматлікіх іншых сфер жыцця. Дарэчы, найбольш раннімі знаходкамі на тэрыторыі горада з'яўляюцца фрагменты керамічнага посуду XV стагоддзя. Яны складаюць каля 1% ад агульнай колькасці археалагічных матэрыялаў і знойдзены ўсе пры вывучэнні старажытнасцей на колішняй Гандлёвай плошчы. Археалагічныя знаходкі дазваляюць таксама гаварыць пра значны ўздым гарадскога жыцця пачынаючы з канца XVI стагоддзя. Карціна развіцця горада, створаная на падставе матэрыялаў археалогіі, пацвярджаецца пісьмовымі крыніцамі.

Першае ўдакументаванае ўпамінанне Нясвіжа трапляецца ў даравальнай грамаце 1446 года, якой засведчана, што вялікі князь Казімір Ягелончык перадаў яго Мікалаю Яну Неміровічу. Да гэтага Нясвіжам валодаў нехта Сяляўка. Затым паселішча належала Мантыгірдам, Кішкам. Пасля замужжа Ганны Кішка ў 1513 годзе з Янам Мікалаем Радзівілам Барадатым Нясвіж разам з Алыкаю перайшоў у якасці яе пасагу да вядомага магнацкага роду. У пісьмовых крыніцах літаральна да пачатку XVI стагоддзя Нясвіж не называецца ні замкам, ні, тым больш, горадам, а — «дваром нясвіжскім». Па меркаванні Я. Якубоўскага, у XV — першай палове XVI стагоддзя ён быў цэнтрам невялікай гаспадарскай воласці, насельніцтва якога займалася гандлем і рамяством. Мяркуючы па характары *ўпамінання Нясвіжа* ў «Баркулабаўскім летапісе» ў сувязі з набегам татарскіх загонаў, ён не з'яўляўся горадам і ў 1502 годзе. Заснаванне драўлянага замка ў Нясвіжы даследчыкі звязваюць з апошнімі з Кішкаў або Радзівілам Барадатым. Па меркаванні прафесара Анатоля Грыцкевіча, ён мог быць збудаваны і пры Радзівіле Чорным.

Можна спытацца, чаму звесткі пра спрэчныя аспекты нясвіжскай гісторыі не

# ЧАС ЕЎРАПЕЙСКІ, А МАРАЛЬ?..

**Ужо выйшаў пяты нумар газеты «Европейское время». Мы ж друкуем агляд першага. І таму, што першы нумар—праграмны. І таму, што матэрыял дасланы з-за мяжы: заўжды цікава ведаць, як тое, што адбываецца тут, глядзіцца адтуль. І, зрэшты, з той прычыны, што нататкі прафесара Я. Шыраева не толькі аб новай менскай газеце, а ўвогуле пра сацыяльна-культурную сітуацыю на Беларусі.**

Знаходзячыся па справах на Беларусі, я звярнуў увагу на газету, што з'явілася ў кіёсках, з эфектнай назвай «Европейское время» і прываблівай, шматзначнай эмблемай. *Аказаўся першы нумар*. Неабходна адзначыць, што газета выклікае ўражанне саліднага выдання не толькі аб'ёмам, афармленнем, але і зместам. Сярод аўтараў асноўных артыкулаў сустракаюцца вядомыя імёны. Аднак які рэзкі кантраст я адчуў, калі прачытаў слова да чытачоў галоўнага рэдактара. Павінен прызнацца, калі я дайшоў да радкоў, дзе агульна аб'яўляецца ўвесь беларускі друк правінцыйным, «...что площадка для умной, по-настоящему современной, профессиональной, ориентирующей на мыслящих читателей газеты в Беларуси свободна», а затым заява, што на гэтае месца прэтэндуе газета «Европейское время», у мяне міжволі прабегла думка: «Трэба ж, якая прэтэнцыёзнасць і самаўпэўненасць, як у местачковага яўрэя» (трэба разумець безадносна да нацыянальнасці). Пры далейшым азнаямленні з газетай я ўмацаваўся ў гэтый думцы, асабліва, калі *прачытаў нататку «Кормимся, господа?»* нейкага Андрэя Беларусава (відаць, псеўданім).

Далей замест выразу «местачковы яўрэй» я буду карыстацца адным вызначэннем «местачковы», без слова «яўрэй», бо апошняе прамаўляецца неяк з апаскай: калі ў адмоўным плане, то навешаюць ярлык антысеміта, а калі ў станоўчым, то абзавуць сіяністам. У гэтай сувязі да месца прывесці прыклад са сваёй практыкі. Неяк я рабіў даклад пра беларускі этнас і пры тлумачэнні навуковага прынцыпу вылучэння этнічных тэрыторый сказаў, што адпаведна з метадычнымі палажэннямі ў этнаграфіі мяжа вызначаецца па размяшчэнні аўтахтоннага (карэннага сельскага) насельніцтва без уліку гарадскога, у процілеглым выпадку на тэрыторыі Беларусі да вайны ўзнікла б некалькі небеларускіх дзяржаўных утварэнняў, бо ў гарадах беларусы складалі меншасць, *ну, а пакольківі большасць* складалі яўрэі, то ўнутры Беларусі некаторыя раёны маглі б атрымаць статус яўрэйскай рэспублікі. Гэта маё тлумачэнне выклікала негатыўную рэакцыю ў аднаго з маіх калег яўрэйскай нацыянальнасці, які, нягледзячы на неаспрэчнасць навуковага боку пытання, вытлумачыў яго з *палітычнага пункту погляду* як антысеміцкі выпад.

Другі выпадак. Аднойчы, яшчэ ў застойныя часы, дыскутуючы пра вагу яўрэйскага інтэлектуальнага патэнцыялу ў жыцці грамадства, я даказваў, што ў сярэднім яўрэйская нацыя знаходзіцца вышэй за многія іншыя нацыі па сваім адукацыйным і, значыць, інтэлектуальным узроўні. Мяне імгненна абвінавацілі ў сіянізме.

Яўрэйскую тэму я закрануў невыпадкова. Сёння мы перажываем перыяд, калі тое, што ўчора было забароненым, стала не толькі магчымым, але і жаданым, мэтазгодным. Нядаўна Беларусь устанавіла дыпламатычныя адносіны з Ізраілем. У Беларусь прыязджалі відныя дзяржаўныя дзеячы Ізраіля, якія нарадзіліся на яе зямлі. Шкада, што газета недастаткова ўдзяліла ўвагі гэтым важнейшым падзеям. Наша цікавасць да Ізраіля павінна праяўляцца не толькі таму, *што ўстаноўлены дыпламатычныя* адносіны і выявілася роднасць з ім, дзякуючы такім аўтарытэтным ураджэнцам Беларусі, што несумненна збліжае нас з гэтай квітнеючай краінай, — галоўная цікавасць павінна праяўляцца да вопыту Ізраіля ў станаўленні і фарміраванні яго дзяржаўнасці ва ўсіх адносінах: эканамічных, палітычных, культурных. Цікавы вопыт Ізраіля ва ўкараненні роднай мовы. *Стваральнікі яўрэйскай* дзяржавы, кіраўнікі ўрада і большасць самых актыўных адраджэнцаў, якія з'яўляюцца пераважна выхадцамі з Еўропы, гаварылі на мове «ідыш» і на іншых еўрапейскіх мовах, аднак, нягледзячы на гэта, яны прынялі рашэнне ўкараняць у якасці дзяржаўнай мовы «іўрыт». Іх не збянтэжыла тая акалічнасць, што на мове «іўрыт» гаворыць адсталая ў культурных адносінах частка насельніцтва (сефарды). Вызначальным фактарам тут было тое, што «іўрыт» з'яўляецца мовай *карэннага насельніцтва*. Заўважу, што абедзве гэтыя мовы лінгвістычна зусім розныя. Мова «ідыш» адносіцца да германскай групы моў, а «іўрыт» — да семіта-хаміцкай групы. Трэба звярнуць увагу, што мова ўкаранялася па ініцыятыве зверху, прычым мэтанакіравана і вельмі паспяхова. Кіраўнікі краіны першыя *сярод еўрапейцаў (ашкіназі) пачалі* вывучаць іўрыт і размаўляць на ім, таму што на першае месца ставіліся праблемы развіцця нацыянальнай культуры. Адраджэнне яны пачалі з засваення старажытнай мовы, старажытнай культуры, традыцый, рэлігійных звычаяў іудзеяў.

Параўноўваючы іх праблемы па адраджэнні нацыянальнай культуры з нашымі, трэба сказаць, што тут ёсць шмат агульнага. Нашы адраджэнцы пачынаюць дзейнічаць падобным чынам, але толькі вельмі нясмела, і ў асноўным ініцыятыва ідзе не зверху. Радуе тое, што Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь валодае роднай мовай. Усё ж ёсць *спадзяванне, што* мова беларуская стане дзяржаўнай не толькі дэкларатыўна, але і фактычна. Поспехі ў вырашэнні гэтай праблемы ў многім залежаць ад прэсы.

Будзем спадзявацца, што газета «Европейское время» *падключыцца* да гэтай праблемы і ў наступных нумарах мы ўбачым рэкамендацыі з выкарыстаннем вопыту Ізраіля. Спадзяёмся таксама, што газета будзе садзейнічаць збліжэнню паміж беларускім і ізраільскім народамі. Пакуль, на жаль, пра такое імкненне газеты нельга сказаць. Калі звярнуць увагу на нататку «Среди газет и журналов», а канкрэтна на заўвагу на *адрас міністра замежных спраў* П. Краўчанкі з нагоды яўрэйскіх пагромаў на Беларусі, мы бачым адваротнае. Праўдзівасць гэтых звестак у газеце выклікае глыбокае сумненне. Мы больш схільны верыць таму, што напісана ў рэзалюцыі канферэнцыі беларускай палітычнай эміграцыі, якая адбылася ў верасні 1921 года ў г. Празе, на якой прысутнічалі прадстаўнікі шэрагу партый. У першым пункце *«Рэзалюцыі супраць яўрэйскіх пагромаў»* напісана наступнае: «На беларускай зямлі за ўвесь час шматвяковага сумеснага жыцця беларусаў і яўрэяў не было ніводнага выпадку, каб мірнае жыццё 12-мільённага беларускага народа з 3-мільённым народам яўрэйскім азмрочвалася якім-небудзь крывавым эксцэсам». Сумненні грунтуюцца на тым, што няма дакладных дадзеных пра ўдзел у пагромах менавіта беларусаў, што істотна, бо беларускае насельніцтва ва ўказаных газетай гарадах складала меншасць у параўнанні з рускімі і палякамі. Да гэтага трэба дадаць, што ўлада ва ўказаных гарадах, як і ва ўсёй Беларусі, была не беларускай.

Артыкулы ў газеце, прысвечаныя эканамічным праблемам, уяўляюцца досыць цікавымі і, трэба меркаваць, не застануцца без увагі грамадскасці. Цікавыя палітычныя артыкулы і, як заўсёды, публіцыстыка *Алеся Адамовіча*.

Можна вітаць мэты і задачы, аб'яўленыя газетай, асабліва такія, як адстойванне правоў чалавека, падтрымка антыманапольнай палітыкі, прадпрымальніцкай ініцыятывы, усемагчымых форм *уласнасці і інш*. Разам з тым, узнікае шкадаванне, што газета, якая аб'явіла сябе фінансава незалежнай ад правячых колаў, аказалася тэндэнцыйнай у сваіх палітычных поглядах. Дэвіз газеты «Свободный дух веет где хочет» правільны, але ён не дае маральнага права даходзіць да анархічнай усёдазволенасці, як гэта праявілася ў нататцы «Кормимся, господа?», дзе агульна прыніжаны публіцыстычныя вартасці ўсёй беларускай прэсы і дадзена, мякка кажучы, не карэктная крытыка паважанага народнага дэпутата-адраджэнца Я. Цумарава.

Відавочным фактам з'яўляецца тое, што за апошнія гады прыкметна змянілася ў лепшы бок беларуская прэса, хоць большасць газет па-ранейшаму фінансуецца дзяржбюджэтам (цалкам або часткова). *Не буду ў «ЛіМе» гаварыць* пра «ЛіМ» — скажу пра іншыя. Палепшала газета «Звязда». Цікавыя публікацыі з'яўляюцца ў «Народнай газеце», у «Нашым слове», «Культуры» і некаторых іншых. Разам з тым, сустракаецца нямала публікацый і газет у цэлым, далёкіх ад узроўню сапраўднага журналісцкага майстэрства. Нельга не пагадзіцца з крытыкай на адрас прэсы, якая *не пазбавілася* псіхалогіі бальшавіцкага таталітарызму. Яна дагэтуль знаходзіцца пад уплывам старога адміністрацыйнага апарату, ад якога залежыць фінансава. Справядлівая крытыка нізкай культуры чыноўнікаў апарату ўпраўлення. На жаль, у пэўнай ступені гэта можна сказаць і на адрас беларускай інтэлігенцыі ўвогуле. Так, нашай інтэлігенцыі не хапае культуры паводзін, зносін. Нізкая эрудыцыя ў гуманітарных галінах ведаў. Але ж яна яшчэ зусім маладая. Можна сказаць, што па сутнасці толькі ў *апошні час пачала* фарміравацца ўласна беларуская інтэлігенцыя. Большасць яе з вёскі, прычым вёскі калгаснай, абрабаванай і прыніжанай. Праўда, сёння

КАНФЛІКТ

# СЮЖЭТ ДЛЯ МУЛЬТФІЛЬМА?

Унікаючы ў гэты канфлікт, а ён цесна звязаны з «Анімацыйным Беларускім цэнтрам», я неаднойчы лавіў сябе на думцы, што яго фабула магла б скласці сюжэт «мультфільма для дарослых»: сродкамі анімацыі, нягледзячы на ўсю іх спецыфіку, можна паказаць жыццё ва ўсёй яго складанасці, ва ўсіх яго праявах і звівах. Гэта было б «кіно» пра некаторыя рысы нашага постсавецкага грамадства, якое быццам бы ўжо і не тое, што было раней, але ўяўляе сабой дзіўны кактэйль са старых уяўленняў, звычак, паводзін, злёгку «облагороженных» дэкларацыямі аб свабодзе, дэмакратыі, прымаце права.

Прымат права, прымат закона... Перада мной ляжыць рашэнне выканкама Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў ад 30 ліпеня 1991 года «Аб выкарыстанні будынка па вуліцы Калініна, 9 пад дзіцячы анімацыйны цэнтр». Дакумент досыць цікавы і, думаю, варты таго, каб працытаваць яго амаль цалкам: «Улічваючы, што ў адпаведнасці з рашэннем выканкама Першамайскага раённага Савета народных дэпутатаў ад 9 ліпеня 1991 года дашкольная ўстанова № 20 належыць перамяшчэнню ў будынак па вул. Кнорына, 14а для пастаяннага размяшчэння і прымаючы пад увагу эканамічную немэтазгоднасць правядзення капітальнага рамонту будынка па вул. Калініна, 9, якое вызваляецца, для далейшага яго выкарыстання пад дзіцячую дашкольную ўстанову, выканкам Мінскага гарсавета рашыў: 1. Прыняць пастанову пастаяннай камісіі Мінгарсавета па асвеце, выхаванні і культуры і Першамайскага райвыканкама аб перадачы будынка па вул. Калініна, 9 у арэнднае карыстанне студыі «Анімацыйны Беларускі цэнтр» для размяшчэння ў ім дзіцячага міні-кінатэатра і відэасалона, класаў танцаў, малюнка і камп'ютэрнай графікі, дзіцячай і прафесійнай мультыплікацыйных студый, тэатра-студыі лялек, дзіцячага кафэ-марожанага. 2. Студыі «Анімацыйны Беларускі цэнтр» да 15.9.91 г. прыступіць да работ па рэканструкцыі будынка ў адпаведнасці з патрабаваннямі «Галоўмінскархітэктуры». Падпісана рашэнне старшынёй Мінскага гарвыканкама А. Герасіменкам і кіраўніком спраў Савета Л. Валодзькінай.

Калі ў чытача хопіць цярпення адолець гэты ўзорчык нашага канцылярскага стылю, ён не зможа не заўважыць, што асобныя пункты рашэння пярэчаць адзін аднаму. Калі ў прэамбуле падкрэсліваецца немэтазгоднасць правядзення капітальнага рамонту, дык двума радкамі ніжэй «Анімацыйны Беларускі цэнтр» абавязваюць неадкладна пачаць рэканструкцыю будынка. Я наўмысна спыняю ўвагу чытача на гэтым моманце, бо ў далейшым развіцці падзей ён адыграе сваю ролю.

Потым, калі я сустрэнуся з намеснікам старшыні Першамайскага райвыканкама Людмілай Уладзіміраўнай Бур'як, якая, дарэчы, спрыяла Анімацыйнаму цэнтру ў атрыманні гэтага будынка, яна раскажа, што раённая санэпідэмстанцыя забараніла ўтрымліваць там дзіцячы садок, бо памяшканне знаходзілася ў аварыйным стане.

— Будыніна гэтая была даведзена да такога стану, што, паводле экспертных ацэнак, нават не падлягала капітальнаму рамонту, — гаворыць мастацкі кіраўнік студыі АБЦ член Саюза кінематаграфістаў рэспублікі Алег Белавусаў. — Тым не менш, мы рызыкнулі рамонт правесці. Грошы ўзялі пад будучыя фільмы, знайшліся спонсары, якія, ведаючы нашу ранейшую прадукцыю, паверылі ў нас. Студыя ж наша знаходзіцца на самаўтрыманні, дзяржава не дае нам ні капейкі.

Адна справа — словы, другая — пабачыць на свае вочы. Я пабыў на Калініна, 9. Адразу кінуўся ў вочы кантраст паміж знешнім выглядам будынка (зусім нядрэнна глядзіцца на агароджаным, у засені дрэў, участку) і тым, што ўбачылася ўсярэдзіне. Усярэдзіне былі вузкія «дзетсадаўскія» калідорчыкі, пакойчыкі-катухі, цесненька застаўленыя сталамі, за якімі корпаліся мастакі-мультыплікатары. Паўсюль стаяў густы пах фарбы і вапны, адусюль чуўся стукат, скрыгат, грукат — поўным ходам ішоў рамонт, Алег Паўлавіч паказаў мне ўжо адрамантаваныя пакоі пад дзіцячы кінатэатр мультфільмаў, лялечны тэатр «Батлейка», спектакль якога «Бай і батлейка» прагледзелі ўжо сотні дзяцей малодшых класаў навакольных школ і дзіцячых садкоў.

— У перспектыве, — гаварыў ён, — арганізацыя дзіцячай анімацыйнай студыі, абсталяванай камп'ютэрамі і відэатэхнікай. Анімацыйны Беларускі цэнтр задумваўся, як своеасаблівы сімбіёз прафесійнай і дзіцячай творчасці ў галіне мультыплікацыі, з такім разлікам, каб за лік найбольш таленавітых дзяцей папаўняць шэрагі прафесійных аніматараў, якіх, дарэчы, не рыхтуе ніводная з навучальных устаноў рэспублікі.

Якую ж асноўную, так сказаць, мастацкую прадукцыю выпускае Анімацыйны цэнтр? Я не ставіў сваёй мэтай аналізаваць дзейнасць цэнтра, але ўсё ж скажу, што быў уражаны, даведаўшыся, што нават у такіх умовах аніматары цэнтра за год зрабілі пяць мультыплікацыйных фільмаў зборніка «Казкі розных народаў». Завяршаецца праца над першым на Беларусі поўнаметражным мультыплікацыйным фільмам па славутым «Дэкамероне» (на яго ёсць пакупнікі ў блізкім і далёкім замежжы), у разгары праца над поўнаметражным дзіцячым мюзіклам «Кантэрвільская здань», распачата вытворчасць мультфільма «Зачараваны кравец» паводле прытчаў Шолам Алейхема. Ухвалены студыяй сцэнарый дзіцячага «мульціка» па сцэнарыі С. Сокалава-Воюша ў форме займальнай казкі для паказу ў беларускамоўных дзіцячах садках і малодшых класах. Праўда, у АБЦ мне паскардзіліся, што фінансаваць гэтую вельмі патрэбную сёння 30-хвілінную стужку адмовіліся і ў Міністэрстве народнай асветы і ў Міністэрстве культуры...

А цяпер пра тое, што прымусіла мяне ўзяцца за пяро. Акурат перад самым новым годам у АБЦ раптоўна завітаў першы намеснік старшыні Першамайскага райвыканкама Аляксандр Мікалаевіч Новік у суправаджэнні кітайскіх дыпламатаў і аб'явіў анямелым гаспадарам, што «ёсць рашэнне» аб высяленні аніматараў, бо тут размесціцца кітайскае пасольства. А. Белавусаў пазваніў міністру замежных спраў рэспублікі Пятру Краўчанку, паведаміў яму, што пад пагрозай высялення на вуліцу апынуўся адзіны ў рэспубліцы анімацыйны цэнтр з яго больш чым ста рэжысёрамі і мастакамі-мультыплікатарамі. Пётр Кузьміч адказаў, што ўсіх гэтых акалічнасцяў не ведаў... Між тым, кітайскія дыпламаты сталі частымі гасцямі на Калініна, 9. Справа дайшла да таго, што пасольскія работнікі пачалі ўжо абмяраць пакоі, меркаваць, дзе што ў будучым пасольстве будзе размешчана.

Я менш за ўсё схільны прад'яўляць нейкія прэтэнзіі кітайцам ці таму ж Міністэрству замежных спраў, якое мае сваім абавязкам клапаціцца аб размяшчэнні ў сталіцы рэспублікі замежных пасольстваў. Намеснік кіраўніка спраў Міністэрства замежных спраў рэспублікі Алег Анатольевіч Новікаў небеспадстаўна скардзіўся мне на цяжкасці, з якімі даводзіцца сутыкацца пры размяшчэнні замежных пасольстваў. Раней, да набыцця Беларуссю дзяржаўнай незалежнасці, гаварыў ён, амаль уся дыпламатычная дзейнасць міністэрства зводзілася да пытанняў, звязаных з членствам Беларусі ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Сёння рэспубліка мае дыпламатычныя зносіны з 74 краінамі свету. Можна сабе ўявіць, які аб'ём працы даводзіцца зараз выконваць міністэрству пры зусім невялікім штаце супрацоўнікаў. Што тычыцца замежных пасольстваў, дык, паводле Венскай канвенцыі, якую наша рэспубліка падпісала, мы абавязаны забяспечваць пасольствы належнымі ўмовамі для нармальнай дзейнасці — памяшканнямі, сувяззю, гарантаваць іх бяспеку і г. д. Калі ж мець на ўвазе дадзены выпадак, зазначыў А. Новікаў, дык мы супраць таго, каб праблемы з размяшчэннем дыпламатычнага корпуса вырашаліся за кошт нашых грамадзян, асабліва дзяцей.

Папярэднічаў усяму гэтаму канфлікту прыём, наладжаны старшынёй урада рэспублікі В. Ф. Кебічам у гонар кітайскага пасла перад сваім ад'ездам з місіяй у Кітай. На прыёме пасол паскардзіўся прэм'еру, што іх пасольства дагэтуль не мае прытулку. Вячаслаў Францавіч, трэба меркаваць, адчуў сябе ніякавата і паабяцаў кітайскаму дыпламату ўладзіць справу. Падшукаць належнае памяшканне для кітайскага пасольства было даручана камітэту Дзяржмаёмасці пры Саўміне і гарвыканкаму.

Зарыпелі пёры, зазванілі тэлефоны, да пошуку прымальнага памяшкання былі падключаны райвыканкамы горада. Так у полі зроку айцоў сталіцы з'явіўся дом на Калініна, 9. Вось тут і ўзнік канфлікт.

У любой цывілізаванай краіне, дзе ўсе спрэчныя пытанні, скажам, па той жа арэндзе памяшкання, вырашаюцца толькі судом, нікому ў галаву не прыйдзе дзейнічаць так, як яго левая нага захоча. У нас жа, дзе па-ранейшаму праўда на баку таго, у каго больш правоў, вырашылі з анімацыйным цэнтрам не цырымоніцца, хоць тэрмін дагавору аб арэндзе заканчваецца толькі ў 1996 годзе.

Убачыўшы, што кіраўнікі АБЦ, падтрыманыя сталічнай грамадскасцю, не спяшаюцца падымаць рукі, выканаўчая ўлада ў лепшых «саўковых» традыцыях пачала абходны манеўр, абвінаваціўшы аніматараў у парушэнні ўмоў арэнднага дагавора. Выкарыстаўшы працяглую хваробу намесніка старшыні Першамайскага райвыканкама Л. Бур'як, націснулі на фармальнага арэндадацеля — загадчыца Першамайскага райана Я. Міхнюк. На свет нараджаецца дакумент, у якім канстатуецца парушэнне АБЦ некаторых пунктаў дагавора аб арэндзе — праводзіцца перапланіроўка і рэканструкцыя будынка, частка плошчаў быццам бы здадзена ў субарэнду.

Усё гэта аказалася, мякка кажучы, маной. «Парушэнняў ніякіх не было, — засведчыў у гутарцы са мной старшыня пастаяннай камісіі па культуры, галоснасці і захаванні гісторыка-культурнай спадчыны Мінскага гарсавета І. Чарняўскі, які выязджаў на месца разам з намеснікам старшыні гарсавета А. Гурыновічам.— На нашу думку, высяленне анімацыйнага цэнтра з'яўляецца незаконным. Мы давялі гэту думку да старшыні Мінгарвыканкама А. Герасіменкі, Міністэрства замежных спраў, Першамайскага райвыканкама.

Тым часам, Мінгарвыканкам падае іск аб скасаванні дагавора аб арэндзе АБЦ будынка па Калініна, 9, у Гаспадарчы суд Мінскай вобласці. Суд у разглядзе іску адмаўляе.

Яшчэ адзін штрышок, што характарызуе манеру паводзін прадстаўнікоў нашых уладных структур. Званю першаму намесніку старшыні Першамайскага райвыканкама А. Новіку, таму самаму, які вадзіў кітайскіх дыпламатаў на агледзіны дома, каб дамовіцца аб сустрэчы. Спытаўшы пра мэту візіту, ён нервова адказвае: «Нічога не ведаю, мне было даручана кіраўніцтвам павезці туды кітайскага пасла, і на гэтым мая місія скончылася». Аляксандр Мікалаевіч кажа не зусім праўду. Наколькі мне вядома, А. Новік выконваў заданне свайго непасрэднага начальніка — першага намесніка старшыні Мінгарвыканкама Уладзіміра Васільевіча Ярмошына, у кабінеце якога абгаворваўся ўвесь план высялення анімацыйнага цэнтра.

Пакуль што пытанне аб перадачы кітайскаму пасольству будынка на Калініна, 9 не знята.

Можна зразумець беларускіх дыпламатаў, для якіх уладкаванне замежных пасольстваў—пастаянны галаўны боль. Але ж непаразуменні з размяшчэннем у сталіцы Беларусі дыпламатычнага корпуса будуць непазбежныя, пакуль у нас не запрацуюць па-сапраўднаму прынятыя Вярхоўным Саветам законы аб маёмасці і арэндзе, пакуль не будуць выпрацаваны падзаконныя акты, якія б прадугледжвалі механізмы набыцця замежнымі пасольствамі будынкаў і іншай нерухомасці. Цяпер жа, сутыкнуўшыся з такой праблемай, улады пачынаюць дзейнічаць імпульсіўна, прымаюць рашэнні, менш за ўсё кіруючыся інтарэсамі ўласнай дзяржавы. Што з гэтага атрымліваецца, мне здаецца, бачна на прыкладзе гісторыі, якую я расказаў.

Міхась ЗАМСКІ.

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Галоўнага архітэктара Мінска выклікалі ў ЦК: «Мусім пагаварыць з вамі наконт аднаго дамка. Пастаўлены бяздумна шмат гадоў назад інтымны прытулак псуе наш фасад. Таму, што нам шкодзіць, мы кажам «аюсь», узарвалі нядаўна пісьменніцкі Саюз. Тэатр не на месцы, нас захінае сквер, мы па-новаму плошчу фарміруем цяпер». Усхапіўся архітэктар: «Зносіць пісуар?» — «Пачакайце, не спяшайцеся, не на пажар. Туалет нам патрэбны, хоць ён і не на месцы, бо як жа з трыбуны ў час парадаў і шэсцяў? Нашто валтузня — і думка адна: зачыняем «Навіны дня». Туды туалет, а парады — часова да Дома Ўрада. Пішыце даклад— вас падтрымае ўрад». ...Туалет бліз тэатра дагэтуль «пры сцягу», а наша балада без канца і працягу.

●

Ці не абражае вас мова нашых вялікіх святынь? Хатынь і па-руску Хатынь... Сташ здранцвелы, у роспачы небывалай, а нехта перад табою разгортвае дацдзыбао. Словы, словы, словы, быццам звону недастаткова, комінаў недастаткова, студні недастаткова. Назвы беларускіх вёсак перакладзены па-руску — ці ж беларуская мова мёртвая мова этрускаў? Хатынь і па-руску Хатынь... Жалобнае чуеш дзінь-дзінь?

●

У тым, што цяпер не ў модзе ні Ёся, ні Валодзя, вінаватыя Карл з сябрам з іх абракадабрай. А што па накідах Карла і Фрыца, па якіх нічога не магло ажыццявіцца, будаўніцтва ўсё ж вялося, вінаватыя Валодзя і Ёся.

●

З пісьма дамоў. Усе мы з хат, ды вось няўдача, сядзім, прыкутыя, на дачах. І ўсё радзей, шаноўны брат, гучыць той енк «Усе мы з хат». Унукі носяцца наўскач: «Усе мы з дач», «Усе мы з дач».

●

З чым параўнаю ленінскія камуністычныя суботнікі? Толькі з ленінскімі камуністычнымі нядзельнікамі. І то не тады, як ненажэрныя авадні наладжвалі іх у іншыя дні.

●

Што табе сказаць аб цыгарэце — невымоўны смак на гэтым свеце.

●

Спрэчка цягнулася доўга, любімы вучань Шагала, ён хацеў атрымаць за накід нейкую жменьку металу. Але ацэншчык быў няўмольны, эканоміў кожны пятак, і накід трапіў у ведамасць з адзнакаю «невядомы мастак» (майстар не схацеў падпісвацца «за так»). Эскіз ляжыць на паліцы, уціснуты ў сціплую раму, музейны пыл прыпарушыў мастакоўскую драму. Колькі ж у нас шэдэўраў, не прызнаных дома, і колькі занядбаных талентаў з псеўданімам «аўтар невядомы»?

●

Этапы: сачыняў некралогі на іншых, узбіўся ў абойму тых, што некралогі падпісваюць, сам трапіў у чорную рамачку, але своечасова аслабаніў дарогу аўтару свайго некралога.

●

— У нас прэстыжны пад'езд, — выхвалялася Марфутка. — афіцыянт, пратэзіст, прадавец, валютная прастытутка, далакоп, бізнесмен, запраўшчык, нетрадыцыйны лекар, адна мая бедная мама шэры бібліятэкар.

ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-25-25; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Юрась ЗАЛОСКА — 33-19-85; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

Нумар падпісаны ў друк 25.2.93 у 18.10

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:

Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (адказны сакратар), Юрась СВІРКА.

Індэкс 63856
Тыраж 15.000

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12